
З Богам — на выбары → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Кляшчэлі кс. Лісоўскага → 9


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 43 (3050) Год LIX | Беласток, 26 кастрычніка 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Княжае і панскае ЗУБАВА (ч.II)

**Чаму многія забываюць, што ў 1939-1941 гадах не па сваёй волі сібіракамі сталі не толькі самі палякі? Беларусаў, у тым ліку і нас, з Беласточчыны, саветы таксама вывозілі. І нямала поту, слёз і касцей пакінулі нашы продкі ў неабсяжнай сібірскай прасторы, на нечалавечай зямлі — як напісалі пісьменнікі. Незагоеныя людскія раны, сямейны боль па страчаных блізкіх, кінутых часта ў безыменныя магілы. Нават не пад крыжамі. Гэта таксама важная спадчына сямейнай і нацыянальнай памяці падляшскіх беларусаў. Заўсёды ў верасні ў Беластоку праходзіць Міжнародны марш жывой памяці польской Сібіры. Хутка мае ўзнікнуць тут пры дапамозе дзяржавы ўнікальны Музей памяці Сібіры. Ці будуць там прадстаўлены таксама канкрэтныя навуковыя даныя і прыклады лёсаў вывезеных беларусаў і жыдоў — грамадзян II Рэчы Паспалітай, што складалі асноўную масу насельніцтва Заходняй Беларусі? Ці традыцыйна, у польскім варыянце Усходніх Крэсаў, застанемся выключна прамоўчанымі і забытымі?**

Здаўна хацелася мне апісаць лёс беларускай сям'і з Беласточчыны, якая не па сваёй волі была адпраўлена саветамі ў Сібір толькі за тое, што ўмела гаспадарыць на сваёй зямлі. Для камуністаў ставаліся яны панамі. А для бальшавікоў у іхняй сістэме панам не было месца. «Пан-крестьянин» — за свой «грэх» сама меней павінен адпакутаваць, працуючы ў голадзе і холадзе на адзіную ў свеце такую краіну «вольных» людзей. Сялянскай крыві на руках савецкай улады было мора. Загнаць людзей у калгасы, расстраляць працаўнікаў, некалькі мільёнаў заморыць голадам на самай ураджайнай Украіне, увесь час папаўняць паўночныя лагеры раскулачанымі вяскоўцамі — асноўныя задачы гэтай нечалавечай сістэмы.

## Пан з Дворыска

Прыход у 1939 г. «товарищей-освободителей» на Беласточчыну для сям'і героя майго расказу Пятра Карпюка з Зубава (1932 года нараджэння) абазначаў пачатак траўматычных падзей, якія працягваліся некалькі гадоў. Але ўсё па чарзе....



По адрасе Зубава, 93 распалажаная калёнія сям'і Карпюкоў, на якую ў палове трыццатых гадах яны перабраліся са шчыльна забудаванай вёскі. Пераехалі туды баба Марта і дзед Ян Карпюкі (другія дзяды памерлі ад тыфу, калі вярталіся з бежанства), бацькі Пятра — маці Марыя і тата Фларыян (служыў у час Першай сусветнай вайны ў рускай арміі, быў ранены) і дзве старэйшыя сястры — Марыя і Ліда. За прасторны і прыгожа нарэзаны квадратны панадворак Фларыян Карпюк падплаціў геадэзісту дадатковыя 100 злотых — сума даволі вялікая як на даваенныя меркі. Для прыкладу, тады за дзень працы ў лесе для дарослай асобы плацілі 1-2 злоты. Ну і народная назва гэтага ўрочышча-калёніі гучыць таксама годна — Дворыско. Па-суседску з Туруўшчынай і Попелямі. Ці знаходзіцца там раней нейкі панскі двор? Пётр Карпюк не памятае гэтага нават з расказаў колішніх старажылаў. Хутар Дворыско знаходзіцца праз дарогу аж не так і далёка ад Княжай гары (пра якую мы пісалі ў папярэднім нумары тыднёвіка ў аднайменным рэпартажы).

Працавітая сям'я Карпюкоў, добра гаспадарыўшы на новым месцы, пачала зажываць дабра. Сталі панамі з Дворыска.

— Жылі мы някепска. У бацькі было дваццаць пяць гектараў зямлі, — пачынае ўспамінаць спадар Пётр. — На тры пары коней аралі. А двое коней яшчэ было гатовых да працы. Былі і кабылы, і жарабяты. Любіў мой бацька коней. І я таксама змалку любіў займацца конскай справай. Бацька менавіта сябраваў з тымі аднаяскоўцамі, што займаліся конегадоўляй. Увесь час пра коней і гаварылі. Ну і, зразумела, каровы, авечкі, свінні і ўсё астатняе было. Да працы наймалі мы парабкаў, а дома пры хатніх справах дапамагала служанка. Тут, у Зубаве, многа было багатых гаспадароў. Але добрае ўсё скончылася з прыходам саветаў. І найперш свае аднавяскоўцы даносілі ім на бацьку. У калгас намаўлялі, але бацька адмаўляўся. Тады наклалі на яго абавязак звозіць спачатку каменне, потым лес. Мы ведалі і чулі, што вывозяць у Сібір і ў 1939, і ў 1940 г. Ну і прыйшло 20 чэрвеня 1941 г. Пятніца. Раніцай пад наш дом на машынах прыехала НКВД. А праз два дні на саветаў пойдуць немцы......

## Беласток — Бельск-Падляшскі — Бійск

У гэты момант твар і вочы майго героя становяцца надта сумнымі. І пачынаюць чырванець ад слёз. Голас дрыжыць, а думкі выказваюцца няскладна. Сяджу твар у твар з чалавекам, якому, тады дзевяцігадоваму падшпарку, прыйдзецца выжываць у такіх умовах, якіх — як сам кажа — не жадае найгоршаму ворагу. Пакаленне Другой сусветнай вайны. Ахвяры нацыскай і камуністычнай сістэм. Жахі, аб якіх не павінны мы і сёння забываць. Акіян крыві, чалавечай крыўды, учыненай родам чалавечым. Шаленства дваццатага стагоддзя — дзве сусветныя войны з генацыдам народаў, закладзеным Гітлерам, Леніным і Сталіным. І калі добра падумаць, то ў нашай частцы Еўропы ваенны катаклізм, пачаты ў 1914 годзе, так сапраўды закончыцца ў 1956 годзе — тры гады пасля смерці Сталіна. Сорак гадоў вайны і страху. Толькі пасля 1956 г. распачнуцца рэабілітацыі і спроба жыць па-іншаму, але са страхам, закладзеным ужо ў генах, і з бояззю перад турмой ці расстрэлам.

— Энкавэдыст, які прыехаў нас забіраць, быў не з горшых. Мы мелі вельмі мала часу, каб сабрацца. Але ён сказаў маці, — прыпамінае Пётр Карпюк: — «Вы сюды ўжо больш не вернецеся, таму забірайце многа рэчаў. Там, куды вас павязуць, усё спатрэбіцца. А мужа свайго ўжо не ўбачыце». І набралі мы перш за ўсё сундук вопраткі. У суседзяў на дарогу пазычылі бохан хлеба. У нас не было акурат напечанага. Пазычылі на пяць доўгіх гадоў. Як нас разбудзілі, то ўсе былі перапалоханыя. Каб гэта было сёння, то не ўзялі б мяне так лёгка. Ну, а што ж, я тады — дзіця. І павезлі нас у Бельск-Падляшскі на вакзал. А там нас усіх чакалі таварныя вагоны. І добра мне запамяталася — тры лакаматывы мелі цягнуць гэты састаў. І загналі людзей у вагоны як быдла. Як быдла нас упіхвалі і білі. О, Езу!

* * *

— З маім бацькам у гэты ранак здарылася такое. Ноч у чэрвені вельмі кароткая. А ён сабраўся яшчэ ў прыцемку над раніцай павезці збожжа на млын. Але мясцовыя камуністы пільнавалі дарогу на наш хутар ужо звечара. Затрымалі бацьку, вярнулі яго назад на калёнію. А тады ўжо на машынах прыехала НКВД і яго павезлі ў Беласток, у турму. З Зубава разам з бацькам забралі Адамюковага Івана (так называлі па-вулічнаму), быў таксама і адвакат Лукашук з Бельска-Падляшскага, якога сям'ю таксама вывезлі. І тое, што здарылася ў турме, а мой бацька Фларыян застаўся ў жывых, гэта проста цуд. Калі 22 чэрвеня выбухла вайна, энкавэдысты пачалі расстрэльваць зняволеных у беластоцкай турме. Павялі іх групай з 39 чалавек на расстрэл, у тым ліку майго бацьку разам з тымі знаёмымі. Былі яны ў другой дваццатцы. На іх вачах першая дзевятнацатка звалілася мёртвымі. Яны чакалі ўжо смяротных стрэлаў, калі раптам над турму наляцелі нямецкія самалёты і пачалі страляць. Энкавэдысты разбегліся і ўцяклі, забыўшыся пра прысуджаных на смерць. На волю выпусцілі іх беластачане, якія прыйшлі пад турму і разбілі вароты. Разам са сваімі знаёмымі па бядзе вярталіся назад. Адамюкоў Іван пайшоў адразу дадому, адвакат Лукашук падаўся ў Бельск, а мой бацька яшчэ два тыдні скрываўся ў наваколлі перад вяртаннем на сваю калёнію. Глядзеў як ходзяць без гаспадара яго любімыя коні. Усё паразбягалася. Потым ён вярнуўся і пачаў гаспадарыць.

— І не ведаў бацька, што з намі здарылася, а мы не ведалі, што ён нас чакае, — робіць паўзу спадар Пётр перад расказам пра пяць наступных гадоў яго жыцця, якіх не назавеш звычайнымі дзіцячымі ўспамінамі.

Гады дзяцінства, што пачаліся ў Зубаве, жорстка перарваныя, перанеслі яго з падляшскай лагоднасці ў марозны Алтайскі край, у горад Бійск і яго наваколле.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Яўгена ВАПЫ





# РАЗМОВЫ на прыпынку

Люблю я грэшнай справай у чаканні аўтобуса паслухаць размовы людзей на гарадскіх прыпынках. Асабліва каля цэнтральнага гарадскога праваслаўнага сабора, што па вуліцы Ажэшкі ў Гродне. Можа і не грэх гэта зусім — урэшце ж не падслухоўваю, бо людзі гавораць уголас, не хаваючы сваіх думак ды поглядаў. Вуліца гэтая надзвычай цікавая — носіць імя пісьменніцы, якая ў сваім жыцці прынцыпова не размаўляла па-расейску, лічачы горад акупаваным чужынцамі. Ажэшку вельмі любілі тагачасныя гарадскія жыхары за яе дзейнасць — з'ява надзвычай рэдкая, можа нават адзінкавая. І нават у савецкі час гэтая, адна з цэнтральных вуліц атрымала яе імя. Цяпер жа на гэтай вуліцы скрозь расейшчына — гастраном „Московский", кафэ „Москва"...

Найбольш папулярная сярод жыхароў, канешне, тэма Украіны і Пуціна. Думкі розныя, але пераважае ў галовах, як кажуць, каша ў выглядзе маскоўскай прапаганды.

Зрэшты сярод *vox populi* пачуць можна самае рознае. Вось кабета дастаткова шляхетная распавядае свайму, відавочна, знаёмаму ці суседу, які выглядае досыць бамжавата:

— Уяўляеце, у майго брата ва Украіне два дамы разбамбілі ў Данецкай вобласці. Дык ён сабраў усю сям'ю і ў Растоў паехаў. А там яму кажуць усе: „Чаго вы, хахлы, сюды прыперліся!". А якія яны хахлы? Яны ж нават паўкраінску размаўляць не ўмеюць! Але добра, што грошы былі — то паехалі — пад Кіевам дом купілі, здаецца цяпер усё добра.

— А вы ведаеце, я сам хахол, — адказвае той даўно нягалены і нямыты мужчына, — толькі я супраць гэтых усіх рэвалюцый і бандэраўцаў, галоўнае — гэта парадак і стабільнасць.

А вось дзве дамы выходзяць з царквы і ажыўлена пачынаюць языкамі абмывацца:

— Нам ніякіх майданаў не трэба. Такі гадкі гэты Парашэнка, а вось Пуцін маладзец!

Іншая ёй ахвотна падтаквае. Тут ужо я не стрымаўся, увайшоў у іх гутарку:

— Ну так, — кажу, — дурны гэты алігарх Парашэнка, усё жыццё з адной жонкай. І багаты, а напэўна грошай шкадуе. А вось Пуцін — мужык — развёўся са сваёй і, кажуць, з гэтай гімнасткай ужо дзіця зрабіў. Дзяржаве патрэбныя моцныя мужыкі і новыя салдаты.

— Ну, праўда, я таксама ў „Комсомольской правде" пра гэта чытала, — пагаджаецца са мной старэйшая кабета. Але другая, гадоў пяцідзесяці пяці неяк збянтэжана кажа:

— Ну неяк гэта ўсё ж няправільна, — відаць яна на пару імгненняў уявіла сябе на месцы адстаўленай Людмілы Пуцінай і глыбей задумалася пра свайго палітычнага куміра: — Вы ж паглядзіце, якія варвары і вандалы гэтыя ўкраінцы — руйнуюць усюды помнікі Леніну, а гэта ж наша гісторыя.

— Ну так! — працягваю далей іграць сваю ролю я. — А вось у Маскве бачыце як цывілізавана ўсё — ужо 90 гадоў ляжыць Ленін у сваім маўзалеі і ніхто яго не чапае, як усё па-хрысціянску робіцца. Гэта з Захаду ўся гэта гадасць лезе. Яшчэ іхны Карл Маркс казаў: „Рэлігія — опіум для народа". А вось Ленін даў сапраўдную свабоду веравызнання.

Цяпер ужо кабеты дапялі мой амаль непрыхаваны сарказм:

— Ну вы, мужчына, ерунду нейкую кажаце.

Тут падыходзіць мой аўтобус і працягваць размову няма ні жадання, ні магчымасці. Што тут скажаш. Пакуль расейскія РТР-ы (РТР — Российская ТелеРадиокомпания) б'юць намнога мацней, чым расейскія БТР-ы. Пры тым прапаганда дасягнула вяршынь класічнай гебельсаўшчыны і спалучае несапалучальнае. У іх і Ленін, разбуральнік храмаў і хрысціянскай веры, спалучаецца з праваслаўем, і Пуцін — новы „збіральнік зямель рускіх", які ўжо нарабіў столькі зла і вайны — убраны ў тогу дабрачынца і міратворца. Дзе ж гэтым спажыўцам ідэалагічнага дурману, які ўсё перавярнуў з ног на галаву, зразумець ды паверыць, што на сумленні таго Пуціна ўжо тысячы ахвяр — забітых дзяцей Беслана і чачэнскіх сем'яў зруйнаванага дарэшты Грознага, атручаных заложнікаў „Норд-Осту" ў Маскве і свядома кінутых гінуць маракоў падлодкі „Курск", жыхароў звычайнага дома ў Валгадонску і мноства маладых украінскіх і расейскіх салдат, загінуўшых на новай вайне, злачынна развязанай Крамлём. Для іх галоўнае — „каб не было Майдана". Хоць пра сутнасць і праўду Майдана яны не ведаюць нічога.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# БАРДАЎСКАЯ ВОСЕНЬ 2014

## Праграма XXI Фестывалю Беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні БАРДАЎСКАЯ ВОСЕНЬ 2014

**24 кастрычніка 2014 г. (пятніца)**

18.00 — Бельск-Падляшскі — Бельскі Дом Культуры
Адкрыццё Фестывалю / Конкурсная частка / Канцэрт Зорак: Нельга Забыць, Р'э Мажор, Зміцер Вайцюшкевіч

**25 кастрычніка 2014 г. (субота)**

18.00 — Бельск-Падляшскі — Бельскі Дом Культуры
Канцэрт Лаўрэатаў Конкурсу / Канцэрт Зорак: Алег Хаменка, Bosae Sonca, Navi, Sunduk, Re1ikt

**26 кастрычніка 2014 г. (нядзеля)**

15.00 — Беласток — Падляшская Опера і Філармонія — Еўрапейскі Цэнтр Мастацтва
Канцэрт Лаўрэата Гран-пры Фестывалю / Канцэрт Зорак: ILO&Friends, Нельга Забыць, Re1ikt

**Суправаджальныя імпрэзы**

**23 кастрычніка 2014 г. (чацвер)**

18.00 — Гайнаўка — Музей і Асяродак Беларускай Культуры — Канцэрт: Алег Хаменка, Зміцер Вайцюшкевіч
18.00 — Орля — Сінагога — Канцэрт: Алег Кабзар і Надзея Артымовіч, Palina Respublika

**26 кастрычніка 2014 г. (нядзеля)**

15.00 — Нарва — Публічная Бібліятэка — Канцэрт: Palina Respublika

**27 кастрычніка 2014 г. (панядзелак)**

12.00 — Шчыты Дзенцялова — Цэнтр Адукацыі і Прамоцыі Беларускай Культуры — Канцэрт: Re1ikt
18.00 — Чыжы — Гмінны Асяродак Культуры — Канцэрт: Bosae Sonca

**24 і 25 кастрычніка жывая трансляцыя з фестывалю Бардаўская Восень ад 18:05 / 19:05 толькі на хвалях Беларускага Радыё Рацыя 98,1 і 99,2, а таксама ў інтэрнэце на сайце www.racyja.com. Вяшчаем да апошняга выступоўца.**



**Вачыма еўрапейца**

# Па шляху кампаніі

Выбарчая кампанія ў органы мясцовага самакіравання ў самым разгары. Адной з самых ходкіх яе тэм з'яўляецца пытанне аўтамабільных дарог і чыгункі. Дасюлешнія валадары хваляцца, колькі кіламетраў новых дарог здалі ў карыстанне, і ў апошні тыдзень кампаніі здаюць іх нават больш (цяжка даказаць, што тут няма супадзення дат). Прапаноўваюць выбаршчыкам перспектывы развіцця дарог у гмінах, паветах, ваяводствах, і нават у паасобных вёсках, у якія дабіраюцца кандыдаты на войтаў, бурмістраў і радных. Спасылаюцца на шанцы, якія ў гэтым пытанні даюць (пакуль) фонды ЕС і адпаведныя дзяржаўныя праграмы. У сувязі з гэтым нагадаліся мне вераснёўскія дэбаты «Інвестыцыі ў транспартнай інфраструктуры», якія адбыліся ў Беластоку ў рамках Усходняга эканамічнага кангрэса. Яго ўдзельнікі, спецыялісты па тэме, прыйшлі да высновы, што, хоць Польшча ўсё яшчэ вядзе перамовы з Еўрапейскай камісіяй наконт спісу транспартных інвестыцыйных праектаў, можна лічыць, што атрымаем большыя сродкі з еўрасаюзнага дафінансавання. Звярнулі ўвагу на гэта: ёсць асцярогі, што ў канцы дзесяцігоддзя істотна не паменшыцца раздзел паміж станам развіцця інфраструктуры ў рэгіёне Усходняй Польшчы і ў сярэднім па краіне. Як гаварылі, гэта з'яўляецца вынікам некалькіх фактараў, у тым ліку меншага ліку насельніцтва ў сярэднім на 1 квадратны кіламетр, большага іх ліку ў вёсках, ці меншага аб'ёму грузавых перавозак па аўтамабільных і чыгуначных шляхах. Нягледзячы на гэта, немагчыма зрабіць выснову, што да ваяводстваў Усходняй Польшчы горш ставяцца пры размяркоўцы еўрасаюзых фондаў. Тым больш, што ў бягучай перспектыве ЕС гэта самаўрады будуць вырашаць лёс больш чым сарака адсоткаў еўрасаюзных сродкаў, акрамя таго надалей будзе працаваць цэнтральная аперацыйная праграма «Развіццё Усходняй Польшчы».

Адам Кулікоўскі, старшыня Агульнапольскай гаспадарчай дарожнай палаты прыгадаў і разгарнуў уяву: «Да 2007 года Падляшша не мела ані кіламетра хуткай шашы і аўтастрады, у пачатку гэтага года даўжыня іх склала 42 км (у Польшчы — 2980 км), а да канца дзесяцігоддзя будзе 146 км (у Польшчы — 4500 км). Гэта прагрэс, але пры такім тэмпе сярэдні дзяржаўны ўзровень высакахуткасных шляхоў дасягнем у 2040 ці 2045 годзе». На яго думку, нават у рэгіёне ёсць розніца ва ўзроўні інвестыцый у транспартную інфраструктуру. Падляшша ў бягучай фінансавай перспектыве атрымае на гэтыя мэты каля 1,4 млрд. еўра сродкаў з ЕС, але паставіць яго гэта на 14-м месцы ў краіне і на апошнім у рэгіёне. На больш чым мільярд еўра закантрактуе, напрыклад, Люблінскае ваяводства.

Дарыюш Блёхер, старшыня ўправы і выканаўчы дырэктар кампаніі «**Budimex**», найбуйнейшай фірмы ў сферы транспартнай інфраструктуры ў Польшчы, не хаваў, што ў яго фірме з каля 90 праектаў па будаўніцтве дарог, на долю ўсходніх ваяводстваў выпадае толькі 15 адсоткаў: «Калі мэта інфраструктурных інвестыцый заключаецца ў паляпшэнні прывабнасці рэгіёна і змяшчанні прамых інвестыцый, не будзе яна для Усходняй Польшчы дасягнута ў бягучай фінансавай перспектыве 2014-2020».

У сваю чаргу, Адрыян Фургальскі, член рады кансалтынгавай кампаніі «TOP» адзначыў: «У праграме дарожнага будаўніцтва ў Польшчы на перыяд 2014-2020 гг. адведзена 72 мільярды злотых, але толькі некалькі дарожных інвестыцыйных праектаў у рэгіёне Усходняй Польшчы ўведзены ў рэзервовы спіс. Калі міністр фінансаў пагодзіцца павялічыць на 20 мільярдаў злотых доўг Агульнапольскага дарожнага фонду, у іх ёсць шанц увайсці ў асноўны спіс і быць рэалізаванымі». Пры нагодзе транспартнага матыву дэбаты выніклала, што рэкордная кошту расходы панясуць у гэтым годзе ўпраўляючыя чыгуначнай інфраструктурай ПКП — польскія жалезныя дарогі, у тым ліку таксама ў рэгіёне Усходняй Польшчы. «У новай фінансавай перспектыве больш шасць лінейных інвестыцый будзе сканцэнтравана на паляпшэнні грузавых ліній, якіх у гэтым рэгіёне адносна менш, чым на асноўных перавозных патоках, — сказаў Рэмігіюш Пашкевіч, генеральны дырэктар кампаніі ПКП ПЛК. — Акцэнт робіцца таму на мадэрнізацыю лініі для пасажыраў, асабліва Варшава — Беласток». ПКП ПЛК, у прыватнасці, плануе працягнуць на польскі бок шырокія пуці, якія бягуць ад нашых усходніх суседзяў і так разбудаваць інфраструктуру, каб можна было прымаць доўгія (на 600 м) і больш цяжкія цягнікі і перагрузку рабіць у нас. Гэта дазволіць павялічыць колькасць працоўных месц. Перад наступнай стадыяй мадэрнізацыі «**Rail Baltica**» будзе палепшана спалучэнне маршрутаў з Беластока ў Седльцы праз Чаромху.

Слухаючы аўтамабільных і чыгуначных перадвыбарчых абяцанняў кандыдатаў у самаўрады, варта часам спаслацца на інфармацыю пра магчымасці, якія будуць яны мець у бліжэйшай перспектыве ў гэтай сферы. Дарэчы, не толькі ў гэтай.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



# Схетыноўкай на выбары

**ЧАЦВЕР, 16 КАСТРЫЧНІКА. Гадзіна 15.30. Воблачна. У Гарадку, аднак, свята як у сонечны непрацоўны дзень. На скрыжаванні вуліц Хадкевічаў і Зарэчанскай «Расспяваны Гарадок» з мясцовага Гміннага цэнтра культуры радасна спявае беларускія песні. Веслаў Кулеша, што ў чацвёрты раз стараецца за мандат войта, у суправаджэнні падляшскага ваяводы Мацея Жыўны і гасцей з Беластоцкага староства, перарэзалі чырвона-белую стужку. Такім чынам у разгары выбарчай кампаніі афіцыйна адкрывае ён адрамантаваную асноўную дарожную лінію, камунікацыйны цэнтр у Гарадку. За рэзкай стужкі ўважліва сочаць прадстаўнікі выбарчых камісій канкурэнтаў на пасаду войта, і дзясяткі жыхароў, многія з якіх няўпэўненыя ў тым, ці ў гэты раз аддадуць свой голас за цяперашняга гаспадара гміны.**

Роўна месяц да выбараў, прызначаных на 16 лістапада, выбарчую кампанію можна прыкмеціць у Гарадку пасля выхаду з аўтобуса ПКС. З плаката на сцяне, здавалася б, закінутага дома насупраць культурнага цэнтра спаглядаў сапернік дзеючага войта Веслава Кулешы — Ежы Грыц. У выбарах 2006 года і 2010 зараз 51-гадоваму Веславу Кулешу не было канкурэнтаў і падтрымалі яго больш за 87 адсоткаў выбаршчыкаў. Зараз у яго ёсць два — адстаўныя афіцэры памежнай аховы. Адным з іх з'яўляецца 45-гадовы Сільвестр Чарнецкі са Станцыі Валілы, які прадстаўляе выбарчы камітэт ад СЛД «Лявіца Разам», другі таксама маладзейшы за цяперашняга войта — Ежы Грыц, якому 44 гады, падтрымліваецца выбарчым камітэтам «Давайце выбіраць нармальнасць» (Wybierzmy normalność). Першага не ўбачыце на плакатах у Гарадку. Другі рэкламуецца на ўлётках, на якіх камітэт сцвярджае, што «выбірае нармальнасць, сумленнасць, законнасць, справядлівасць, супрацоўніцтва і партнёрства». Веслаў Кулеша «заклікае да даверу ў яго вопыт», таму што ён «ведае, чаго яшчэ чакаюць жыхары».

## Чалавек таксама зношваецца

У святочны чацвер на скрыжаванні вуліц Хадкевіча і Зарэчанскай сабраліся дзясяткі людзей, у асноўным пажылых. Сярод іх вялікая група мясцовых гмінных чыноўнікаў, прадстаўнікоў сілавых структур і дзейных радных, якія зноў стараюцца за гэтую функцыю разам з войтам Кулешам. На тратуары пры скрыжаванні — шыльда. На ёй аб'явы фірм, якія шукаюць працаўнікоў — у Баброўніках офіснага работніка і на базары, у Гарадку на працу ў пральні. Іншая аб'ява заахвочвае да продажу ўсіх відаў рагоў, таксама пашкоджаных. Сярод рэкламных аб'яў на адным баку табліцы выбарчая ўлётка Веслава Кулешы. З другога боку дзве — Ежы Грыца: з кандыдатамі на радных з яго камітэта, а побач толькі з адным з кандыдатаў — з гарадоцкім вадзіцелем аўтобуса Янушам Рамановічам.

— А хто той Грыц, я не ведаю, нейкі малады, — прызнаецца «Ніве» 84-гадовы ўраджэнец Гарадка Ян Бочка, які 25 гадоў прапрацаваў работнікам сельскай гаспадаркі ў Страшаве, а пасля рабіў качагарам на трыкатажнай фабрыцы «Каро», якую пасля ліквідацыі гады таму параслі дрэвы.

— А гэта той Грыц, што тут у блоку побач скрыжавання жыве, — паказвае будынак побач месца цырымоніі работніца гміны. — Пра гэтага Чарнецкага нічога не чутна: ні плакатаў не мае, ні перадвыбарных сустрэч. Кампанію робіць пацыху. Пра спадара Грыца больш гавораць. Я ведаю, што ўжо па вёсках вядзе сустрэчы. Так, Кулеша шмат разоў быў войтам. Многія гавораць, што можа ўжо хопіць. Людзі звычайна хочуць нейкай змены. Можа не будзе так, што зараз Грыц штосьці добрае зробіць, але чакаюць, што нейкая змена на новае наступіць.

За ўрачыстасцю на скрыжаванні назірае даверaная асоба камітэта «Давайце выбіраць нармальнасць» Ежы Клебус. Гэты камітэт падтрымлівае Ежы Грыца:

— Я думаю, што наш кандыдат не прыйдзе. Я не магу ад учора да яго датэлефанавацца, таму што ў яго папсаваны тэлефон.

У інтэрв'ю ў апошнім нумары прыхільных да цяперашніх гмінных улад «Гарадоцкіх навін» на пытанне галоўнага рэдактара газеты Юрыя Хмялеўскага (заадно дырэктара мясцовага ГЦК), войт Кулеша адзначае: «Сярод незадаволеных на гэты раз апынуліся патэнцыйныя супернікі, якія не маюць вопыту ў сферы самакіравання. Я не магу сказаць, паводле якіх крытэрыяў яны могуць прапаноўваць перадвыбарчую праграму, не маючы ў гэтых справах практычнай падрыхтоўкі. Мяркуючы па абяцаннях выбаршчыкам, не прааналізавалі яны даступных у «Бюлетэні публічнай інфармацыі» асноўных фінансавых дакументаў нашай гміны, якія даюць веды аб бюджэтных магчымасцях. Калі б іх прааналізавалі, то ведалі б, што не могуць шмат абяцаць выбаршчыкам, таму што бягучыя выдаткі амаль ураўнаважваюць бягучыя даходы. На практыцы гэта абазначае, што кожны маленькі крок у няправільным напрамку можа прывесці да парушэння прынцыпаў выканання бюджэту ў адпаведнасці з Законам аб дзяржаўных фінансах, што, у сваю чаргу, абазначае, што прыйдзецца рэалізаваць бюджэт сыходзячы з праграмы аднаўлення. Такая сітуацыя абазначае, што ў гэты перыяд немагчыма карыстацца крэдытамі і пазыкамі, ні рэалізаваць шмат якіх выдаткаў».

На скрыжаванні Ежы Клебус каментуе цырымонію:

— Адкрыццё дарогі гэта штучная выбарчая паказуха. Тое, што зроблена ў гміне, пачалося яшчэ пры войце Яўгену Семенюку, напрыклад, стадыён, ці за еўрасаюзныя ці павятовыя грошы рынак, парк, дарогі. Кожны войт гэта зрабіў бы. У Мастаўлянах пан Кулеша выхваляўся нядаўна, што ён будзе рабіць дарогу з Зуброў у Вейкі, а гэта хлусня, таму што гэта робіць староства. Староста падпісаў адпаведнае распараджэнне аб будаўніцтве. Ніякія дарогі ў вёскі на ўсходнім баку гміны праз Вейкі, Мастаўляны, Зубры, Зубкі, Свіслачаны не робіцца. Там проста скансэн. Мы пастараемся змяніць гэта. На апошніх выбарах было не выбіранне, толькі «галасаванне». Цяпер, нарэшце, у Кулешы з'віліся супернікі. Я спадзяюся, што ў Сейме пройдзе законапраект, які абмяжуе тэрміны паўнамоцтваў войтаў і прэзідэнтаў. Тады лягчэй будзе іх змяніць. Нават у адным абутку не дасца хадзіць дванаццаць гадоў. Чалавек таксама зношваецца.

## Дарога ў будучыню

Дзве гадзіны да перарэзання стужкі, на абноўленай вуліцы ў Міхалова ззаду аўтобуснага прыпынку корпаюцца рабочыя. На супрацьлеглым баку гаспадар дома кажа да жанчыны, якая прыбірае вуліцу:

— Адкрываюць сабе новыя дарогі, а гэтая на Міхалова незавершаная. Усё тут штосьці робяць і робяць.

Праз дзве гадзіны на скрыжаванні працаўніца гміннай адміністрацыі тлумачыць «Ніве»:

— На Міхалова дарога была таксама роблена пад «схетыноўку» некалькі гадоў таму. Там цяпер будуць класці валаконна-аптычны кабель для шырокапаласага доступу ў інтэрнэт у рамках праекта падляшскага маршалка. Але ў Гарадку яшчэ ёсць крыху іншых дарог, каб іх зрабіць. Ёсць і брукаванкі, і жвіроўкі.

«Камунікацыйны цэнтр» асвечаны. Айцец Мікалай Астапчук, настаяцель праваслаўнага прыхода ў Гарадку, дзякуе войту:

— Гэтая цудоўная дарога — таксама магчымасць міжчалавечай сувязі. Я хацеў бы, каб нашы дарогі таксама вялі ў царкву, у касцёл. Ёсць дарогі, якія вядуць на гэтай зямлі, але і тыя, якія вядуць яшчэ вышэй і я хацеў бы, каб мы карысталіся і гэтымі дарогамі. Каб мы жылі ў лучнасці з небам.

Каталіцкі святар ксёндз Станіслаў Каханоўскі:

— Я спадзяюся, што наша супрацоўніцтва не скончыцца на працягу месяца на карысць жыхароў гміны, для дабра царквы і касцёла.

Войт-кандыдат пералічвае, што на працягу сямігадовага функцыянавання Агульнапольскай праграмы аднаўлення мясцовых дарог (гэтак званых «схетыновак») на тэрыторыі Гарадоцкай гміны завяршылі шэсць праектаў, з якіх дзве павятовыя дарогі Сафіпаль — Залукі — Навасёлкі і Станцыя Валілы — Міхалова прафінансаваў Беластоцкі павет з удзелам гмінных грошай. Іншыя, гэта стратэгічныя дарогі ў Гарадку, у тым ліку вуліцы Хадкевіча, Міхалоўская, Беластоцкая і дарога ў Зарэчанах. Гмінныя ўлады разам з павятовым староствам ужо падалі заяўку ў рамках «схетыновак» на грошы на рэканструкцыю чарговых гмінных дарог у Баброўніках і ў Станцыі Валілы ды павятовай Вейкі — Зубры.

Ваявода Жыўна:

— Я рады, што ў рамках «схетыновак» ва ўсім ваяводстве разам з мясцовымі органамі ўлады мы можам скінуцца па палове на гэтыя дарогі, вельмі важныя для дзяржавы. Я спадзяюся, што гэта не апошняя «схетыноўка», якую з панам войтам адкрываем. На 2015 год у нашым ваяводстве прызначана сума больш за 57 млн. злотых, а гэта абазначае, што з усіх пададзеных заявак, пяцьдзясят працэнтаў будзе праходзіць на конкурсная аснове. Сёння я магу абяцаць палову на палову, што ваша заява пройдзе.

Іаланта Дэн, намесніца беластоцкага старасты:

— Пан войт, я вам апладзірую!

## Штотыднёвая сустрэча: працяг адкрыцця

Ян Бочка, гледзячы ў даль вуліцы Хадкевічаў, прызнаецца:

— Ну, гэтыя дарогі, што ў нас парабілі, першы клас! Зрабілі аж да Беластока. Амаль усё ў Гарадку маем. Доктар адзін і другі. Крама адна, другая, трэцяя... Толькі рэстарана няма. Мне на старасць добра тут жыць. Мне ўсё адно, хто будзе войтам. Усе аднолькавыя. Хай маладыя людзі выбіраюць маладых. Мне ўжо нічога не трэба.

Гадзіна 16.10. Войт Кулеша абяцае пасадзіць новыя дрэвы ўздоўж гарадоцкіх дарог і кансервацыю ўжо растучых. У поясе, які злучае тратуар і вуліцу Хадкевіча, садзіць арабіны. Гадзіна 16. 30. Гмінны цэнтр культуры. Выбарчая сустрэча падтрымлівання Грамадзянскай платформай Веслава Кулешы і Мацея Жыўны — кандыдата з першага месца ў ваяводскі сеймік са спісу ГП на выбарах у сеймік у «меншаснай акрузе» № 4.

Ваявода прабуе растлумачыць «Ніве»:

— Я не бачу ніякай супярэчнасці ў тым, што выконваю функцыю ваяводы і з'яўляюся кандыдатам на мясцовых выбарах. Як ваявода супрацоўнічаю з усімі органамі мясцовага самакіравання, якія хочуць быць вышэй чым палітычныя рознагалоссі. Мы ўсе працуем на карысць жыхароў. Цяжка, каб я на час выбараў адмовіўся ад выконвання абавязкаў ваяводы. Так як цяжка было б у час парламенцкіх выбараў дэпутатам прыпыніць свой мандат.

Войт Кулеша адкрывае выбарчы мітынг:

— Прапаную працягнуць цырымонію адкрыцця дарогі.

Войт прыводзіць інфармацыі прадстаўленыя хвіліну таму на скрыжаванні:

— Агульнапольская праграма рэканструкцыі мясцовых дарог у нашай гміне дазволіла рэканструяваць амаль 16 км і гэта праграма, якая каштавала разам каля 18 млн. злотых, з якіх амаль 7,5 мільёна паходзіла з дзяржаўнага бюджэту, 4,4 мільёна са сродкаў Беластоцкага павета і астатнія панесеныя выдаткі — з нашай гміны.

Дзяржаўная выбарчая камісія зарэгістравала ў Гарадоцкай гміне шэсць выбарчых камітэтаў, у тым ліку два пад сцягам партыі (СЛД — 11 кандыдатаў і ПСЛ — адзін кандыдат) і «Давайце выбіраць нармальнасць» (пятнаццаць кандыдатаў), «Час для маладых» (пяць кандыдатаў), «Лепшае заўтра» (два кандыдаты) і Самаўрадавае пагадненне Гарадок (камітэт Веслава Кулешы, 15 кандыдатаў). Гміна Гарадок налічвае больш за 5500 жыхароў (больш за 4600 маюць права голасу) і з'яўляецца найбуйнейшай у Беластокім павеце (каля 14,5 працэнта яго плошчы і 2,14% ад агульнай плошчы ўсяго Падляшша). Праходзіць праз яе аж 127 км павятовых дарог. А ўсіх разам гэта каля 400 км. Таму кожная гарадоцкая самаўрадавая ўлада будзе мець што рамантаваць.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## „Сейбіт” узнагароджаны

На Міжнародным кінафестывалі „Пакроў” у Кіеве 13 кастрычніка 2014 г. дакументальны фільм „Сейбіт” беластоцкага тэлежурналіста і рэжысёра Юрыя Каліны атрымаў адразу дзве ўзнагароды.

Пра гэта з украінскай сталіцы паведаміў сам лаўрэат Юрый Каліна:

— Закончыўся Міжнародны фестываль праваслаўнага кіно „Пакроў”, тут я быў з фільмам „Сейбіт”. Фільм атрымаў дзве ўзнагародны, перш за ўсё — гэта ўзнагарода за лепшыя здымкі,




аўтары здымкаў Раман Васілюк і Кшыштаф Венцкоўскі з Польскага тэлебачання ў Беластоку. Мяне таксама ўзнагародзілі за лепшую рэжысуру.

У сёлетнім фестывалі праваслаўных фільмаў спаборнічалі пяцьдзясят карцін з 25 краін, у тым з Украіны, Расеі, Беларусі і Польшчы. Раней шэраг узнагарод на міжнародных фестывалях рэлігійнай кінематаграфіі атрымаў іншы фільм Юрыя Каліны „Архімандрыт”, які апавядае пра заснавальніка першага ў Польшчы скіта — айца архімандрыта Гаўрыіла.

**Кастусь Бандарук,**
Беларускае Радыё Рацыя

## Беластоцкі аператар адзначаны на конкурсе ў Апаленіцы



Аператар Раман Васілюк з беластоцкага аддзела Польскага тэлебачання ўзнагароджаны за працу ў фільме „Святое ў нас”. У Апаленіцы каля Познані прайшоў XXI Журналісцкі агляд і конкурс рэгіянальных асяродкаў Польскага тэлебачання. „Адзначэнне аператарскай працы Рамана Васілюка не выклікала ніякіх пярэчанняў”, — адзначыў у нашым эфіры аўтар фільма „Святое ў нас” Мікола Ваўранюк.

— Усе, хто глядзеў: калегі, журналісты, рэдактары, камісія — адзначылі, што здымкі да гэтага фільма вылучаюцца на фоне іншых, што там ёсць свая манера, свой погляд, сваё непаўторнае аператарскае вока. І гэта сапраўды так.

Фільм „Святое ў нас” аўтарства Міколы Ваўранюка распавядае пра вядомага разьбяра — беларуса з Падляшша Уладзіміра Наумюка.

**Зміцер Косцін,**
Беларускае Радыё Рацыя

# Паўстанчыя сляды ў Белавежскай пушчы



У гарадской бібліятэцы сабраліся аматары мясцовай гісторыі (другі злева – Віктар Кабац)



Дырэктар бібліятэкі Ала Грыц і гайнаўскі гісторык Уладзімір Мусько

**Гайнаўскі гісторык, паэт і разьбяр Уладзімір Мусько, ураджэнец Мокрага, і гайнаўскі беларускі мастак Віктар Кабац, родам з Мінкаўкі — аўтары нядаўна выдадзенага даведніка «Паўстанчыя сцяжынкі ў Белавежскай пушчы»*. Аўтары апісваюць гістарычныя падзеі перыяду паўстання 1863-1864 гадоў у Белавежскай пушчы і яе наваколлі, прэзентуюць месцы паўстанчых магіл, даўніх крыжоў і іншых слядоў паўстання. Прамоцыя кніжкі адбылася 10 кастрычніка ў Публічнай гарадской бібліятэцы імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы. Выданне прымеркаванае да 150 гадавіны выбуху Студзеньскага паўстання. Сабраных у гарадской бібліятэцы прывітала яе дырэктар Ала Грыц, якая таксама вяла спатканне.**

— Гісторык і паэт Уладзімір Мусько ды мастак Віктар Кабац зрабілі вялікую працу, каб прыблізіць нам веды пра гістарычныя падзеі 1863-1864 гадоў на нашых землях і пазнаёміць з захаванымі слядамі Студзеньскага паўстання. Варта заапекавацца гэтымі месцамі, якія сведчаць аб гістарычным мінулым нашых земель, — сказала дырэктар бібліятэкі Ала Грыц і падзякавала спонсарам за фінансавую і арганізацыйную дапамогу пры выданні дапаможніка. Спонсарамі былі Павятовае старраства ў Гайнаўцы, Управа горада Гайнаўкі, гмінныя ўправы Нараўкі і Гайнаўкі, Надлясніцтва Гайнаўка і Еўрарэгіён «Белавежская пушча».

Дырэктар бюро Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Ян Хомчук наладзіў для аўтараў паездку ў Рэспубліку Беларусь і разам з імі збіраў там матэрыялы пра паўстанне і рабіў здымкі для кніжкі. Ян Хомчук выказаў задавальненне ад супрацоўніцтва з Нацыянальным паркам «Белавежская пушча». Яго дырэктар Аляксандр Васільевіч Буры згадзіўся прадоўжыць супрацоўніцтва па захаванні памяці аб Студзеньскім паўстанні і даў згоду паставіць крыж побач рэчкі Лясная, дзе адбылася сутычка паўстанцаў з расійскімі войскамі, у час якой загінула многа паўстанцаў. Раней стаяў там вялікі драўляны паўстанчы крыж, што пасведчыў Ян Філіпчук з Гайнаўкі.

Мастак Віктар Кабац — аўтар вокладкі, рысункаў і графікі да карт, на якіх пазначаны маршруты паўстанцаў па Белавежскай пушчы і яе наваколлі. Карты апрацаваў Уладзімір Мусько.

— Я змясціў у кніжцы звесткі пра паходы і змаганні паўстанцаў у Белавежскай пушчы і наваколлі ў пэўным абагульненні, каб чытач не мусіў углыбляцца ў дэталі, ад якіх можа заблытацца вобраз падзей у цэлым, каб былі яны зразумелымі як вучням, так і дарослым, якія мала ведаюць пра паўстанне на нашых землях. Мы хочам перш за ўсё заахвоціць чытача наведаць месцы, якія напамінаюць аб Студзеньскім паўстанні, — сказаў падчас сустрэчы Уладзімір Мусько.

Расказаў ён пра бітву паўстанцаў з расійскімі войскамі пад Сямятычамі. Пацярпелыя паўстанцы перамясціліся тады на тэрыторыю Белавежскай пушчы. У кніжцы апісаны змаганні паўстанчых атрадаў Рамана Рагінскага і Валерыя Врублеўскага ў Белавежскай пушчы і на Беласточчыне. У Белавежскай пушчы і блізкім яе наваколлі не адбываліся вялікія бітвы паміж паўстанцамі і расійскімі войскамі, а ў пушчанскіх лясах найчасцей паўстанцы хаваліся і адбываліся ад акружаючага іх царскага войска.

— Паўстанцам складана было дайсці са сваімі ідэямі да сялян, таму не было падтрымкі мясцовага насельніцтва для паўстанцаў. Тым, што падтрымлівалі паўстанцаў, пагражала жорсткае пакаранне, — сказаў Віктар Кабац, аўтар другой часткі даведніка «Паўстанчыя тайны пушчы», у якой прэзентуе месцы знаходжання даўніх паўстанчых крыжоў і астатніх паўстанчых слядоў. — Беларусы больш масава прыступілі да паўстання і змагаліся супраць расійскіх войск пад прапавадырствам Кастуся Каліноўскага. Аднак калі ўжо беларусаў абвінавацілі ва ўзброеным удзеле ў паўстанні або ў актыўнай дапамозе паўстанцам, дык пакаранне для іх было яшчэ большым, чым у адносінах да палякаў.

У 1863 годзе Гайнаўка была невялікай вёскай на ўскраіне Белавежскай пушчы і асяродкам пражывання лясной службы.

— Сутычкі паўстанцаў з расійскімі войскамі адбываліся перш за ўсё на тэрыторыі Белавежскай пушчы, якая зараз знаходзіцца ў Рэспубліцы Беларусь. У нашай частцы пушчы ўдалося захаваць ад забыцця намнога больш паўстанчых слядоў, — лічыць Уладзімір Мусько. — Між іншым дзякуючы намаганням Віктара Кабаца, які запраектаваў і выканаў бетонныя крыжы, былі яны пастаўлены на месцах магіл паўстанцаў, у лясных аддзелах 414, 514, 549 і 575.

Спонсарам выканання і ўстанаўлення бетонных крыжоў у Белавежскай пушчы быў Казімеж Кубацкі з Гайнаўкі, які таксама збіраў інфармацыю аб паўстанцах. Аднак крыжоў звязаных са Студзеньскім паўстаннем у Белавежскай пушчы і яе наваколлі намнога больш. Даўнія або новыя крыжы на месцах гібелі ці пахавання паўстанцаў знаходзяцца непадалёк Шарашоўскай дарогі, Лазіцаў, Тапіла, у Арэшкаве, Вітаве, каля Старой Юдзянкі і ў іншых месцах і аб іх прыгадалі аўтары кніжкі падчас спаткання. Непадалёк ад вёскі Капітаншчына знаходзіцца замацаваная на стаўбе старэнькая каплічка, на якой Віктар Кабац адчытаў дату яе выканання — 1864 год.

— Стары, глыбока ўкопаны ў зямлю крыж, стаіць на адзінокай магіле паўстанца непадалёк Доўгага Броду. Загінуў ён падчас сваркі з жыхарам гэтай вёскі. Помста паўстанцаў была суровай. На сям'і гаспадара з Доўгага Броду быў выкананы прысуд, а яго дом спалілі. Гэтую інфармацыю пераказалі настаўніца гісторыі Комплексу прафесійных школ, даследчыца мінулага Вітава Іаанна Сапяжынская і старажылы Доўгага Броду — Павел Вапа і яго жонка, — напісаў у кніжцы Віктар Кабац, звяртаючы ўвагу, што ахвярамі Студзеньскага паўстання былі таксама мясцовыя беларусы.

— Калі паўстанцы не карысталіся падтрымкай мясцовага насельніцтва, харчы бралі сілком і тады сяляне пачыналі адмоўна ставіцца да паўстання. Можа інфармацыю аб перамяшчэнні паўстанцаў расійскія войскі бралі ад сваіх разведчыкаў, якія кружыліся па сёлах, але бывалі выпадкі, што сяляне самі паведамлялі войска аб месцах знаходжання паўстанцаў, — сказаў Віктар Кабац.

Матэрыялы аб вайсковых дзеяннях падчас паўстання 1863-1864 гадоў на тэрыторыі Белавежскай пушчы і ў яе наваколлі знаходзяцца ў архівах Гродна, Пецярбурга і іншых гарадоў Расеі. Можа ў будучыні можна будзе больш даведацца аб удзеле прыпушчанскага насельніцтва ў Студзеньскім паўстанні і дапамозе для яго. У мінулым годзе Пётр Байко з Белавежы апублікаваў у «Гайнаўскай газеце» артыкул аб Студзеньскім паўстанні на тэрыторыі сённяшняга Гайнаўскага павета.

— У Нараўцы нешматлікая каталіцкая парафія на чале з ксяндзом спрыяла паўстанцам, — піша ў кніжцы Віктар Кабац. — У 1866 годзе, пасля падаўлення паўстання, невялікі драўляны касцёл у Нараўцы ў якасці пакарання за падтрымку паўстання быў перададзены праваслаўным.

Віктар Кабац піша таксама пра канкрэтных людзей, якія дапамагалі паўстанню. Між іншым успамінае сем'і Шпаковічаў і Смактуновічаў з Белавежы, Філіпчукоў з Пагарэльцаў, за што былі яны сасланы ў Сібір.

Зараз паўстанчымі крыжамі апякуюцца мясцовыя пажылыя жыхары. Аўтары выдання выйшлі з прапановай, каб крыжамі і помнікамі Студзеньскаму паўстанню заапекаваліся вучні звышгімназічных школ Гайнаўскага павета. У бліжэйшы час прадбачваюцца сустрэчы ў Надлясніцтве Гайнаўка з удзелам вучняў і настаўнікаў звышгімназічных школ для размеркавання задач.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

* Włodzimierz Muśko, Wiktor Kabac, *Powstańcze scieżki w Puszczy Białowieskiej*, Hajnówka 2014.

# Вясковыя танцы



Анатоль Дарошка з жонкай Лідай у крынскага фатографа Лапуця

**АНАТОЛЬ ДАРОШКА** — 1925 года нараджэння, апошні падкрынскі музыкант. Першую гармонію купіў за бацькоўскія грошы на базары ў Вялікай Берастaвіцы. З родных Ласінянаў туды столькі ж кіламетраў што і ў Крынкі. Але цяпер здаецца, што Вялікая Берастaвіца ляжыць недзе на другім кантыненце. За пакупкай юнак адправіўся басанож. Грошай хапала на невялікі, васьмібасовы інструмент.

— Хацелася іграць, — прызнаецца спадар Дарошка.

— Тады такая мода была: хто на музыканта вучыўся, хто на краўца ці каваля, — кажа жонка Ліда Дарошка з дому Цімашэвіч.

Анатоль Дарошка іграў па вяселлях, святах і не святах, якія, дзякуючы яму, пераўтвараліся ў святы. Навучыўся іграць па-колішняму і, як на той час, па-сучаснаму. Запрашалі яго ў Коматаўцы, Рудакі, Азяраны, Крушыняны, Клябанаўцы, Горку, Вострава, Саннікі, Нетупу, Грыбоўшчыну, Баратыншчыну, Суковічы, Піражкі. Нават у Крынках на вяселлі іграў.

— У Піражках найчасцей заказвалі „Зарэчаньку”, любілі таксама „Кадрылю”, — успамінае музыкант.

Прыязджалі за ім і палякі, і татары.

— Клябанаўцы — польская вёска, то і тры тыдні наперад ужо наймалі, — гаворыць спадарыня Ліда. — Усім іграў аднолькава і ўсім гэта пасавала.

Зарабляў Анатоль Дарошка не надта шмат.

— Сто злотых давалі, — кажа жонка Ліда, — а калі, бывала, прычэпіцца, што кепска іграе, то і гэтых не дадуць.

Быў і пачастунак. Талерак не было, то ў міску клалі сала, агурок, хлеб. Прыносілі хто што меў. Тады пераважна была шкварка, а яшчэ яйкі смажылі. Частаваліся выключна хлопцы. Рэдка калі садзіліся за стол разам з дзяўчатамі.

— Толькі на Вялікдзень дзяўчаты рыхтавалі закуску і ўжо разам збіраліся, — сцвярджае спадарыня Ліда.

— Полечку танцавалі, факстроцік, танга, — згадвае Сяргей Макаль з Крушынян. — Мне 84 гады. Тых, з якімі я гуляў, ужо мала засталося ў жывых. Вучыліся танцаваць на вечарках-кудзельніцах. Каб на забаву ісці, трэба было грошай зарабіць. Не кожны меў чым заплаціць музыкантам. Я меў каня, запрагаў яго і ехаў у лес па дровы. Прывозіў іх бабам, у якіх не было мужчын. За гэта мне плацілі і я меў ужо з чым на забаву ісці. Помню, як сёння, пайшоў я з калегам — поўнай сіратой. Я з дзяўчынай якраз дзесьці рандкаваў, а ён на музыканта складчыну збіраў. Адзін такі адмовіўся плаціць і яшчэ ў морду даў ды кашулю на сіраце парваў. А кашуля тады гэта важны інтарэс быў — шмат грошай каштавала. Як я ўвайшоў, як гэта ўбачыў, то не вытрымаў і, заступіўшыся за сіратой, у морду даў. Калі паявіліся ў людзей грошы, значыць, калі пачалі яны працаваць па ўсякіх пэгеэрах, то забавы сталі непатрэбнымі. Не было іх каму рабіць, бо ўсе параз'язджаліся па свеце.

Найчасцей забавы арганізавалі ў Азяранах. Вядома, ішлі пяхотаю. Стаміўшыся праз цэлую ноч танцамі, цяжка было раніцай дахаты вяртацца. Тады самі сябе праклiналі, чаго гэта было ісці так далёка. Але ўсё роўна ізноў туды ішлі.

Найбольш Сяргею Макалю з забаваў запомніліся бойкі, мабыць больш, чым дзяўчаты, з якімі вельмі любіў танцаваць.

— Ужо разам ідзем дахаты, бо за вёскай могуць напасці. Маладзі тады было шмат. Кавалеры дзяліліся на старэйшых і малодшых. Ну і як ужо на забаву зыдуцца, то надта моцна біліся. А я, падшпарак такі, не раз пайду, стану ў дзвярах і прыглядаюся.

Прычын, каб пабіцца, было шмат. Каманды фармаваліся паводле канфесійнай прыналежнасці пад лозунгамі „палякаў рэзаць, саліць”, „кацапаў рэзаць, саліць”. Біліся і вёскамі.

— У Азяранах лічылі сябе надта важнымі. Адзін выскачыў да нашага, але неяк памірыліся і потым разам пайшлі гарэлку піць. Я сам не біўся. Помню, гэта ў Крушынянах было. Ідзем, а там на Ваньку аднаго напалі. Стасек закрычаў на мяне: — Сяргей чаму не ўключаешся? Я тлумачу, што ў мяне бацькі няма і сена пакасіць трэба. Я забраўся і дахаты пайшоў. З дзяўчатамі праблем не было, хаця і з-за іх біліся. Уклонішся, патанцуеш, потым яшчэ пацалуешся — кожны малады патрабуе кахання. Часам папросіш да танца, а дзяўчына адмовіць, мудрагеліць замнога. Такую мандралю найчасцей выводзілі з залы і выспятак давалі ёй у задніцу.

Спадар Сяргей меў любімую танцорку, але не жаніўся з ёю, бо паехала ў Польшчу за хлебам.



Анатоль Дарошка з ласінянскімі хлопцамі

— У нас найчасцей іграў Анатоль Дарошка, — кажа Разалія Халецкая з Крушынян. — Яго трэба было прывезці і пасля танцаў адвезці назад у Ласіняны. Як сядзе на печку з гармошкай, так іграе, пакуль не прысне. Але граў вельмі добра і сам спраўляўся. Многа грошай не браў, відаць, сапраўды гэта любіў. Нашы татарскія танцы праходзілі ў татарскім доме. Ён, праўда, стары, але яшчэ стаіць, побач з татарскім рэстаранам. Забавы ладзілі кожную пятніцу — бо мы якраз святкуем пятніцу. Гулялі згодна, як Бог прыказаў. Працы было шмат, гаспадарка вялікая, і хацелася нейкую жывёлу трымаць. Як накосішся, нажнешся, то і пра забаву не думаеш, але калі свякроў пагадзілася папільнаваць дачку, то мы з мужыком хоць на пару хвілін ішлі патанцаваць. У нас гулялі пераважна пад праваслаўную, рускую музыку. Яна была вельмі мілагучнай і вясёлай. Мне надта падабаўся падыспан. І факстрот, і шлёфакс, і што хочаш было. А каліігралі ангельскі вальчык, бабы падыходзілі да хлопцаў і з уклонам прасілі іх да танца. Калісь было прыгажэй чым цяпер. Тады ў танцы і закахацца можна было. Найчасцей гэта здаралася пры нагодзе вялікага свята, такога як Байрам. Тады з'язджаліся сюды сваякі з Саколкі і Беластока. Знаёміліся, жаніліся.

Вясковыя танцы закончыліся недзе ў пяцідзясятых гадах дваццатага стагоддзя.

**Іаанна ЧАБАН**

Здымкі з архіва Анатоля Дарошкі



Анатоль Дарошка з ласінянскімі хлопцамі

## Перадвыбарчае саперніцтва

Набліжаюцца самаўрадавыя выбары. І хоць няма яшчэ афіцыйных абвестак аб кандыдатах на пасаду войта, у Чаромсе гаворыцца аб двух: цяперашнім — Юры Шыкуле і папярэднім — Міхале Врублеўскім. З таго, што мне вядома, змаганне паміж сапернікамі будзе заўзятым і „бес пощады”. Дагэтуль мне, выбаршчыку, не выпала на долю пазнаёміцца з выбарчымі праграмамі абодвух кандыдатаў. Але ў Чаромсе вераб'і цвыркаюць, што ў нядзелю, 5 кастрычніка, Міхал Врублеўскі сустрэўся са сваім выбарчым штабам на вуліцы Фабрычнай і абмяркоўваў стратэгію кампаніі. У гэты ж дзень адвячоркам на дошцы аб'яў побач Гміннага асяродка культуры паявілася лістоўка невядомага аўтарства з заклікам: „Panie Michale — wróć! Cała Czeremcha czeka na Pana”. Калі ранкам я падаўся пад клуб зрабіць здымак дык лістоўкі ўжо не было. Войт Юры Шыкула так гэта пракаментаваў: „У панядзелак раніцай я прыкмеціў, што гміну наведаў спадар Яўген Тыханюк. Выходзячы з будынка, прышпіліў на дошцы аб'яў заклік падобнага зместу. Не прачытаў яго, бо знік ён зараз як камфора”.

З вышэйсказанага бачым, што спадар Врублеўскі пачынае дзейнічаць на некалькіх франтах. Ці зможа ён згуртаваць вакол сябе неабходны электарат, каб перамагчы Юрыя Шыкулу, цяжка сказаць. На маю думку гэты апошні рашуча падаўся з духам часу, наблізіўся да народа. Паспяхова змяняе абліча пасёлка і гміны. Затым пачакайма да афіцыйных вынікаў самаўрадавых выбараў. Гэта грамадскасць канчаткова складзе спісак нястрымных абяцанак, як і станоўчых поспехаў цяперашняга і былога войтаў.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Рамонты вуліц

У гэтым годзе магістрат запланаваў перабудаваць у Беластоку дванаццаць вуліц за 135 мільёнаў злотых.

Сёлета ўжо здалі ў карыстанне мадэрнізаваную вуліцу Бялуўны на адрэзку ад вуліцы Мальмеда да вуліцы Новы свет (яна ў самым цэнтры горада).

У жніўні закончылі ўсе рамонтныя працы на шматкіламетровай вуліцы 42 Пяхотнага палка — вядзе яна ад Васількаўскай да Важыўнай (тут на перыферыі яшчэ не так даўно была вялікая цяпліца). Побач яе бяжыць веласіпедная асфальтавая дарожка. Гэтая нядаўна пабудаваная асфальтавая артэрыя зараз асветлена ноччу на ўсёй сваёй даўжыні.

Нядаўна закончылі перабудову маставой (зараз яна на чатыры палосы) на вуліцы Канстытуцыі 3 Мая на адрэзку ад вуліцы Свабоднай да Фабрычнага Антонюка. Побач гэтай артэрыі пабудавалі новыя тратуары і веласіпедныя дарожкі ды больш стаянак для аўтамабіляў, перш за ўсё перад крамамі і пры могілках. Пабудавалі таксама новае вулічнае электраасвятленне. Перабудова вуліцы Канстытуцыі 3 Мая каштавала восем мільёнаў злотых. Дзякуючы гэтай інвестыцыі лягчэй будзе пераехаць з пасёлкаў Лясная Даліна і Сонечны Сток на Дзесянціны.

Пад канец кастрычніка г. г. маюць закончыць працы на вуліцы Вярбовай і ген. Клеберга (гэта апошні адрэзак генеральскай трасы). Гэтая мадэрнізацыя будзе каштаваць 13 мільёнаў злотых. Ужо ў лістападзе г. г. лягчэй будзе ездзіць ад генеральскай трасы да вуліцы Гетманскай і вуліцы Незалежнасці.

Усё яшчэ цягнуцца працы пры перабудове маставой доўгай вуліцы Цыялкоўскага на ўскраіне горада. Тут даходзяць і даходзяць непрадбачаныя дадатковыя працы.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі






# Нам сем гадоў!

У беластоцкай „чацвёрцы”, як ніколі раней, многа першакласнікаў, якія запісаліся на беларускую мову. У школе працуюць два першыя беларускія класы. Дзеткі паспелі ўжо вывучыць вершы, песні і загадкі. Вось, у час школьнай прысягі першых класаў нашы сябры заспявалі любімы гіт першакласнікаў „Нам сем гадоў і ўсе мы вясёлы”!

Беларуская песенька развесяліла ўсіх бацькоў. Яны падтрымалі дзетак воплескамі і не шкадавалі прыгожых слоў пахвалы.

Мы таксама вітаем першакласнікаў і зычым ім поспехаў у навуцы ды файных сяброў за школьнай партай.

**ЗОРКА**








фота Адам Паўлоўскага



# Добра вучыцца беларускай мове!

Ужо ў верасні вучні першага і другога класаў гімназіі ў Гарадку выступілі з цыклам інсцэніровак на школьнай і міжшкольных сцэнах.

Вучні прадставілі выбраныя вершы Міры Лукшы з цыкла „Жывінкі з глыбінкі”. Першы клас падрыхтаваў „Кабылу з Кабылянкі”, другі — „Карову з Малочак” і „Муху з Махнатага”. Вопраткі і рэквізіты рыхтавала моладзь супольна з настаўніцай Альжбетай Раманчук.

Першае выступленне адбылося на свята еўрапейскіх моў, пазней гімназісты заахвочвалі вучыцца беларускай мове малодшых сяброў з першага класа пачатковай школы і дашкольнікаў. Дзеткам падабаліся звяры, якія іх наведалі — кабыла, карова і муха. Некаторыя больш адважныя цягалі чатырохногіх за хвост, або хацелі пацнуць муху. Маленькія вучні дайшлі да вываду, што добра вывучаць беларускую мову.

Гімназісты-акцёры цяпер рыхтуюцца да выступлення ў Прадшколлі ў Гарадку і Недзяржаўнай школе ў Залуках.

**Аляксандра ЯРОЦКАЯ**
**і Эліза МАТУС**
**І кл. Гімназіі ў Гарадку**

Ад рэдакцыі: Дзяўчаткі, файны ваш допіс. Даўно ўжо не было аўтараў з Гарадка. Запрашаем да супрацоўніцтва. Пішыце нам. Думаем, што вашыя допісы спадабаюцца нашым чытачам і вучням. А зараз жадаем паспяховых выступленняў у Залуках і ў Гарадку.

## Загадкі з роднай хаткі

# Увага, конкурс!!! (№ 43-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 9 лістапада, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
У вадзе нырае смела,
хатку ён будуе ўмела.
Пад вадой і на вадзе
будаўніцтва ён вядзе.
(б....)

(Васіль Жуковіч)

**2.**
Кіслінкі-ж........,
Чырвоныя бакі.
Бяруць у кош дзяўчынкі,
Бяруць і хлапчукі.
(ж........)

(Ніна Галіноўская)

**3.**
Ляжыць грушка
ў чырвоным кажушку,
хто яе ўкусіць,
той плакаць мусіць.
( ц.....)

(з народнага)

Адказ на загадкі № 40-14: вожык, заяц, мухамор.

Узнагароду, суперфайную кніжку А. Масла „Пацучок Фэлік падарожнічае”, выйграла Наталля Маркевіч з КШ з ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім.

*Міхал ТРУСЕВІЧ,*
*Міхалова*

## Вавёрка

*Вавёрка – рыжы хвост,*
*Маленькая, але ўмелая.*
*Збірае арэшкі і жалуды.*
*Гэта яе яда да вясны.*

*Сымон КАСПЯРОВІЧ,*
*Юшкаў Груд,*
*школа ў Міхалове*

## Станцыя натура

*Салаўі вяшчаюць,*
*Каты на сваіх вусах іграюць,*
*Сабакі брэшуць,*
*Ніхто нічога не гаворыць!*
*Усё гэтак бывае...*
*Толькі ў звярыным свеце!*

# Візіт у нараўчанскай прабабкі Сары

*(пачатак у 42 н-ры)*

Маці завяла дачку да адной пліткі. Вакол рос стары лес. Яны спыніліся і цягам першых хвілін маўчалі.

— Тут спачывае твая прабабка Сара, — сказала маці.

— А чаму тут, у лесе, а не на звычайных могілках? — пацікавілася дзяўчынка. — ды так далёка ад нашага горада...

Таня адчувала сябе ашуканай. Калі яны павярнулі ў лес, яна спачатку спадзявалася, што сустрэне жывую бабулю. Але маці ўзяла слова.

— Твая прабабка Сара памерла ў час вайны. Яна разам з іншымі ўжо ў лепшым свеце, у небе. Разумееш?

— А чаму яна пахаваная ў лесе? — спытала дачушка. Для малой Танечкі гэта была вялікая загадка.



— Гэтыя могілкі называюць кіркут. Тут хавалі яўрэяў, якія да вайны жылі ў Нараўцы, Свіслачы, Нарве. А чаму лес? Гэта ж прыгожа! Калі шумяць дрэвы, душы спяваюць. Калісь пра гэта ведалі людзі.

Таня паківала галавой, хаця далей мала што разумела....

— Твая прабабка была незвычайнай жанчынай, — цягнула спадарыня Роза. — Яна ўмела пяясніць кожны сон. Яна гаварыла людзям, што здарыцца трагедыя. Што людзі будуць рабіць сабе крыўду. Што адны будуць лепшымі, а другія горшымі. Прабабка Сара хацела, каб як найбольш моладзі з'ехала, схавалася ад фашыстаў. Але сама не хацела нікуды хавацца, яна рашыла застацца з тымі, што не верылі ў яе словы.

Таня яшчэ не ведала жахлівай гісторыі яўрэяў, пра тое, як многіх дзяцей, бацькоў і дзядуляў расстралялі фашысты за іх паходжанне.

Але яна адразу палюбіла горку і месца, дзе спачывае яе прабабка Сара. Яна палюбіла Нараўку за тое, што тут захавалі кіркут.

Пасля маці расказала ёй пра закалот, які адбыўся з магілкай. Яе доўгі-доўгі час не маглі знайсці...

**(працяг будзе)**

**Эва Аврарчук, Оля Зінкевіч (Гімназія ў Бельску-Падляшскім), Уля Марчук (Гімназія ў Нараўцы), Габрыся Торка, Оля Салавянюк (НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку)**

*Апавяданне ўзнікла на Сустрэчах „Зоркі" пасля візіту на кіркуце ў Нараўцы.*



**Магда КЛІМОВІЧ,**
**Баршчэва,**
**школа ў Міхалове**

## Два гномы

*Ішлі дарогай два гномы,*
*Спявалі, дурэлі без стомы.*
*Адзін другому крычаў:*
*– Ту, ту, ту, ту!*
*Другі першаму адказаў:*
*– Ідзі дахаты,*
*Не шукай бяды!*

## Два ленагузы*

*(татарская казка)*

Жылі на свеце два лодары. Аднойчы пайшлі яны ў сад. А там яблыня расла, на галінках чыпелі спелыя, салодкія яблычкі. Дайшлі ленагузы да гэтай яблыні. Старэйшы гаворыць малодшаму:

– Давай патрасем галіны, можа некалькі яблыкаў упадзе на зямлю.

Скрывіўся малодшы ленагуз, быццам лімон пажаваўшы:

– Не хочацца, брат. Давай лепш паляжым сабе пад гэтай яблынькай.

Так яны і зрабілі. Доўга ляжалі пад яблыняй, згаладнелі, у канцы старэйшы кажа:

– У мяне такая мара! Каб яблык сарваўся і патрапіў мне ў рот!

– Ну, не ведаю... – адказвае на гэта малодшы ленагуз, – тут таксама шмат работы. Калі і ўпадзе той яблык у рот, яго ж пажаваць трэба!

– Ну, так, – пагадзіўся старэйшы.

Ленагузы цяжка ўздыхнулі, а пасля пакінулі сад, не з'еўшы ніводнага яблыка.

**(пераклад з рускай Ганны КАНДРАЦЮК)**

**Ленагуз (лінюгуз)* – так на Падляшшы кажуць пра лянівага чалавека, пра найбольшага лодара.

# Вершы Віктара Шведа

## Радасць мацярынства

Настаўніца пытае Зою
Аб успаміне дзяцінства:
— Скажы мне, што гэта такое
Радасць мацярынства.

— Гэта такое пачуццё,
Што адчувае жанчына,
Калі ўжо кожнае дзіцё
Пайшло на начны адпачынак.

## Размова маці з сынам

Маці без прычыны
Страшэнна лае сына:
— Дармаед паганы,
Ты толькі хуліганіш.

А сынок падлетак
Адазваўся гэтак:
— Не карыстайся матам,
Не размаўляеш з татам.

## Хачу быць мядзведзем

— Тата, сцвердзіў малы Федзя,
Я хацеў бы быць мядзведзем.
— А чаму такі твой выбар?
— Дык ён правідловы хіба.

Выбар мой такі таму,
Што праспаў бы ўсю зіму,
А па сне зімовым гэткім
Былі б канікулы ўлетку.

## Дзе ты навучыўся плаваць

Дзеці запыталі Славу:
— Ці ты, дружа, умееш плаваць?
— Магу гэтым ганарыцца,
Плаваю як рыба быццам.

— Нам даведацца цікава
Дзе ты навучыўся плаваць?
— Навучыўся плаваць дзе?
Зразумела – у вадзе.

## Польска-беларуская крыжаванка № 43

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 40:

Грыва, лата, капот, страхоўка, ар, ах, хата, плот, брама. Пі, факт, параход, апарат, ох, тона, на, ахова.

Узнагароду, ***запісныя кніжкі***, выйгралі **Мальвіна Маркевіч, Юлія Календа, Кшыштаф Вайсковіч, Вікторыя Раеўская** з Бельска-Падляшскага, **Алек Чарнецкі, Барташ Ламашкевіч, Рафал Новік, Магдалена Стоцкая, Рафал Марчук, Аня Бляўская** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Szum / Tur | | | | | Koper / Zryw | Fa / Wilk | | |
| | | | Szło | Zwierz / Tron | | | | |
| Orion | | | Troja / Awizo | | | | | Ar / Agent |
| | Zryw | | | | | | Wróżka | |
| | 📖 | Wilk | | | | | 📖 | |
| | On | | | | 📖 | La | On | |
| | | Fin | | 📖 | Len | | | |
| | Wariant | | | | | | | |

# РУЖЫ
# ў Гарадку

**Ружы нам садзіць патрэба.**
**Яшчэ доўга буры свету**
**Шумець будуць на паўнеба.**
**Садзім будучаму лету.**
**Мы, выгнаннікі з айчыны,**
**Можа ўжо не ўбачым квету,**
**Дык мы садзім іх для іншых,**
**Для шчаслівага больш свету.***

Севярын Гашчынскі (1801-1876)



Паэты пасадзілі ружы ў цэнтры Гарадка

Ужо другі літаратурны «o-Gródek» разбіўся ў Гарадку. «Sadźmy, przyjacielu, róże» — заклікалі на гарадоцкую сцэну і агароды Сяменчыкі — ці не самыя ў цяперашні час папулярныя аўтары з Гарадоччыны — брат і сястра Адам і Марта, якія запрасілі ў Гарадок аўтараў з усяго свету на «паэтычна-музычна-фільмавы вечар», які працягваўся два дні ў канцы жніўня, але трывае... да сёння. Бо растуць тыя ружы, пасаджаныя прыехаўшымі аўтарамі (таксама і завочна) у цэнтры мястэчка, каля помніка героям Гарадоччыны, насупраць Гміннага цэнтра культуры, які быў суарганізатарам мерапрыемства. Паэтычна-музычна-фільмава-мастацкі вечар пачаў дырэктар ГЦК Юры Хмялеўскі, які ўжо не першы раз адкрывае імпрэзу, на якую прыехалі паэты, крытыкі літаратуры і аматары паэзіі, прыбыўшыя з Гарадоччыны, Падляшша, Варшавы і Лондана, у розным узросце, пачынаючы вельмі маладымі аўтарамі, да пажылых мафусаілаў паэзіі з паэтычнай групы «Каласы».

«Будзем чытаць вершы і садзіць ружы. Запрашаем слухачоў і чытачоў, паэтаў і людзей якія пішуць», — віднела на каляровым плакаце. У праграме шыкавалася чытанне паэзіі запрошанымі паэтамі, прэзентацыя тома «Карыятыды» Марты Брасарт-Сяменчык з сольным мініканцэртам з песнямі і тлумачэннем вершаў на англійскую мову Івон Акеба, ды польска-беларускага зборніка Багдана Дудко «Даліна: з-над Нарвы і Свіслачы». Паказаў свае «вершы-карціны» Юльюш Эразм Болек, паэт пакалення «Брульёна», пераможца Сусветнага дня паэзіі — 2010», паэт, празаік, журналіст, аўтар работ для сцэны. Дэбютаваў у 1980 годзе. Культывуе любоўную, філасофскую і сатырычную паэзію. Аўтар некалькіх зборнікаў вершаў. Яго вершы публікаваліся ў розных альманахах і анталогіях. Галоўныя кнігі ў яго здабытках: «Prywatne zagrożenie» («Прыватная пагроза»), «Skróty szaleństwa», «Serce błyskawicy» («Сэрца маланкі»), «Ars Poetica», «Таямніцы Жыцця», «Сэнс-ор», «Абракадабра» і альбом паэтычных плакатаў «Ох! Зямля ты мая!». Вядомы ён нетрадыцыйнымі спосабамі прадстаўлення паэзіі, у тым ліку: плакатная паэзія, вершы на сурвэтках, налепкі, паказы тыпу гук і святло, паэзія на аўтобусных прыпынках, вершы з дысплея з выкарыстаннем лазераў. Адно з выданняў кнігі «Таямніцы Жыцця» пабіла рэкорд Гінэса за самы вялікі аб'ём кніг вершаў. Распрацаваў ён новыя літаратурныя жанры: дыялогавага верша і EFP — гэтак званых мейлевых паэтычных эсэ. Вынайшаў новую запатэнтаваную *bodybook* — форму кнігі, якая дазваляе падвесіць кнігу на шыі. Цікавіцца пошукамі ў змесце і сэнсе слоў і фармальных вырашэнняў, такіх як у апавяданні «Серпантын», напісаным у другой асобе адзіночнага ліку. З 1986 года вядзе незалежным чынам мастацкі часопіс «Enigma. Людзі * Мастацтва * Думкі». Распрацаваў Паэтычны фестываль «Верш тысячы начэй». У Гарадку Ю.Э. Болек паказаў выставу паэтычных прац, якая карысталася здаровай радасцю гледачоў.



Анатоль Парэмбскі, Юльюш Э. Болек і Ян Федзюкевіч са слушным паэтычным плакатам Ю. Э. Болька

Арганізатар імпрэзы Адам Сяменчык, лаўрэат XII Сусветнага дня паэзіі ЮНЕСКА, нарадзіўся ў 1971 г. у Белявічах. Пражывае ў Лондане. Дэбютаваў у «Ніве». Піша афарыстычныя тэксты, паэзію, прозу; рысуе — сатыру, пастэль; жывапіс — алейнымі фарбамі гісторыі пра людзей. Апублікаваў тамы: «Скажы мне, хто ты» і «Паміж». Уключаны ў гарадоцкую анталогію «Жыццём напісана». Карціны і тэксты, на якіх выявы фатаграфій спалучаныя з прэзентацыяй паэзіі, былі выстаўленыя, сярод іншых у Беластоку ў Драматычным тэатры, у Алецку, у Варшаве, у Ам'ен, у Парыжы і Лондане. La Maison Des Artistes у Францыі з'яўляецца адзінай арганізацыяй, да якой ён належыць. Сатырычныя малюнкі А. Сяменчыка спадарожнічалі выставам Анджэя Млечкі і выстаўлены ў некалькіх гарадах, сярод іншых у Падляшскім музеі ў Беластоку. Пражывае ў Лондане. Тут узніклі «Буквар шчаслівага чалавека», «Крышынкі кропелькі», «Aforyzmyśli», «Вывучэнне жырафаў». Паэзію публікаваў, між іншым у перыядычных выданнях «Ніва», «Treuburg Post», «Паэзія сёння», «Miesięcznik». Напісаў, між іншым, кнігу эсэ «Прыгожыя людзі» пра паэтаў.

— «Sadźmy, przyjacielu, róże", — гэта цытата з верша паэта эпохі рамантызму, народжанага на Украіне, Севярына Гашчынскага, прысвечанага Марціну Швайцару, — сказаў Адам Сяменчык. — Гэты верш паслужыў нам як канва для нашай сустрэчы. Гэты верш спалучае некалькі розных матываў. Перш за ўсё — «сяброўства». У сёняшнюю эпоху з'яўляецца яно асаблівай каштоўнасцю, за якую трэба змагацца і аб якую трэба турботна дбаць. Мы сабраліся ў групе сяброў. У наш Гарадок прыехалі людзі, якія хацелі супольна правесці разам крыху часу, лічыўшы, што факт быцця разам — вельмі важны. Лучыць нас зацікаўленне паэзіяй і свядомасць пераказвання яе шляхам шматлікіх унікальных каштоўнасцей. Па-другое: «будзем садзіць ружы». Узнікла ідэя, каб пасадзіць у Гарадку алею руж, прысвечаную паэтам. Справа ў тым, каб мець нейкі пункт на Зямлі, у які заўжды можна вярнуцца і мець штосьці ўласнае. Штосьці, што адначасова і прыгожае, і выказвае наша адабрэнне для свету, для паэзіі. Па-трэцяе: *Садзім будучаму лету.* Значыць, выказваем сваю надзею на будучыню. Ёсць у нас вера ў працяглась, у тое, што таксама ў будучыні будуць адбывацца добрыя рэчы. Вядома, што ў гэтым вершы ёсць і водгалас суму. Аўтар быў забіты пасля сарака гадоў пражывання на чужыне і ніколі не меў магчымасці вярнуцца на радзіму. У нашай рэальнасці эміграцыя надалей жывая. Паказвае розныя воблікі. Цяперашняя яе хваля ад дзесяці гадоў мяняе таксама воблік Польшчы...



Адам і Марта Сяменчыкі гуртуюць паэтаў у Еўропе

Адной з «руж» была Габрыеля Юлія Налівайка з Гарадка (унучка вядомага спевака Юркі Налівайкі), якая пачала імпрэзу песняй «Byłam różą», пасля ў час мерапрыемства спявала і іграла на скрыпцы, разам з другой маладой аўтаркай, кампазітаркай і спявачкай Дар'яй Астапчук. Дар'я Астапчук заспявала таксама на англійскай мове, што перакладалася з выступам Івон Акебы. Абедзве маладыя гарадчанкі запрошаны да аздаблення сваімі выступамі чарговага Фестывалю славянскай паэзіі ў Варшаве.

— Вершы Марты Брасарт, якая пачала выступленне паэтаў, — працягвае Адам Сяменчык, — на мове польскай і англійскай. Гэта своеасаблівае люстра часоў. Марта ад некалькіх гадоў прабывае ў англамоўным атачэнні. Яе радкі апісваюць пакручастыя сцежкі нашага жыцця. Прыгожая, субтыльная мова паказвае, што мы засталіся быць уражлівымі на свет, незалежна ад усяго.

Марта Брасарт-Сяменчык сёлета апублікавала свой дэбютанцкі зборнік «Карыятыды», за які атрымала прэмію Сусветнага дня паэзіі ЮНЕСКА ў Лондане. Вершы Марты Брасарт на рускую і беларускую мову пераклала Міра Лукша. Марта з Гарадка з'ехала амаль дваццаць гадоў таму, цяпер пражывае ў Лондане, ад некалькіх гадоў з'яўляецца арганізатарам культурных падзей у Вялікабрытаніі. Дзеля прэзентацыі спецыяльна прыехала з ёю на імпрэзу Івон Акеба — паэтэса і спявачка з Лондана, якая прадставіла таксама свой новы дыск «Fly». Роднае слова прадставілі Міра Лукша, Янук Грыцук, Анатоль Парэмбскі, Ян Федзюкевіч. Вельмі цікава прагучалі дасканалыя творы Роберта Шырынга ды Станіслава Дамброўскага, будаўніка дахаў з Сафіпаля і Яна Рыхнэра, суддзі з Варшавы, арганізатара літаратурных сустрэч у Доме Палёніі. Рэжысёр Міхал Станкевіч з Пяшчанік прадставіў паказ кароткаметражных фільмаў пра вядомыя постаці гарадоцкай культуры, між іншым, пра Анатоля Парэмбскага і Уладзіслава Петрука з Каралёвага Моста ці Янку Карповіча з Гарадка. З Беластока прыехалі літаратуразнаўцы доктар Крыстына Бэзубік і Анна Байгуз з Клуба гуманістаў. На другі дзень «o-Gródka» ў ГЦК адбылася шырэйшая прэзентацыя аўтараў ды пасадка імянных дзікіх руж каля помніка. Адна з руж пасаджана таксама ад імя паэтэсы і літаратуразнаўцы Анны Марыі Міцкевіч з Кафедры славістыкі Лонданскага ўніверсітэта. У падзеі прымалі ўдзел таксама маладыя Мэры Брасарт, П'ер Брасарт, Малгося і Пятрусь Паўлоўскія. Гарадок прывітаў словам, колерам, смакам. Шкада толькі, што ў гэты раз імпрэза не спалучылася з «Заездам у Нарай» — Нарэйкі Тамары Болдак-Яноўскай, і яе самой не было ў Гарадку.

** пераклад Міры Лукшы*

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# След ксяндза Адама Лісоўскага

**Сёлета ў кніжнай серыі „Гарадзенская бібліятэка” выйшла кніжка Уладзіміра Хільмановіча п.з. „Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны”. Уводнае слова інфармуе, што аўтар збіраў і натаваў фіксаваныя даты адметных гістарычных падзей, дні нараджэння і смерці выбітных асобаў, якія лёсам былі звязаныя з Гарадзеншчынай. Мне выпаў гонар атрымаць гэтае выданне ў падарунку з аўтографам Аўтара.**




Магіла ксяндзоў Адольфа Пласкавіцкага і Адама Лісоўскага

Зазірнуў я адразу ў „восеньскі” перыяд календара і пабачыў адтуль праменьчык у нашу Беласточчыну. Менавіта пад датай 9 кастрычніка красуецца там даведка: „1929 — у Варшаве памёр Адам Лісоўскі, беларускі рэлігійны дзеяч, каталіцкі сьвятар. Пахаваны на каталіцких могілках у Кляшчэлях (Беласточчына). Нараджэнец в. Каранды (Смургонскі р-н)”.

Каб даведацца крыху больш пра ксяндза Лісоўскага заглянуў я ў „Энцыклапедыю гісторыі Беларусі”: „Лісоўскі Адам Язэпавіч [6 (18).1.1884, в. Каранды Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер у Смаргонскім р-не — 9.10.1929], бел. рэліг. дзеяч, рымска-каталіцкі святар. Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю, Пецярбургскую духоўную каталіцкую акадэмію (1906). Удасканальваў веды ў Інсбруку (Аўстрыя, 1908-09) і Мюнхене (1909-10). Займаў духоўныя пасады ў прыходах Беларусі і Расіі. Быў блізка знаёмы з Б. Эпімахам-Шыпілам і адміністратарам Магілёўскай архіепархіі біскупам С. Данісевічам. Спрыяў усталяванню бел. мовы ў касцельным жыцці. Падрыхтаваў да з'езда бел. ксяндзоў у Мінску (1917) рэферат „Беларускі рух і яго адносіны да жыцця касцельнага, а таксама да акцыі каталіцкай у Беларусі” (зачытаў А. Станкевіч). У 1917-22 служыў у касцёлах Міншчыны. У 1922 за выступленне супраць канфіскацыі касцельнай маёмасці прыгавораны да смяротнага пакарання (заменена на 5 гадоў зняволення). У 1925 вызвалены ў выніку сав.-польскага абмену вязнямі; канонік Пінскага капітула, пробашч (настаяцель касцёла). Пераклаў на бел. мову кнігі Новага Запавету: Адкрыццё Іаана (Апакаліпсіс), Дзеянні апосталаў, Лісты св. Паўла да рымлян, Да галатаў, Першы і Другі лісты да карынфян”.

Ксёндз Адам Лісоўскі памёр адносна молада, пражыўшы адно 45 гадоў. Год да смерці, у 1928 годзе, быў назначаны пробашчам парафіі ў Вышках, што ў Бельскім павеце. Партал Вышкаўскай гміны таксама акцэнтуе найважнейшыя якасці ксяндза Лісоўскага: „**Ks. kanonik Adam Lisowski wtedy już proboszcz w Korolewiczach pod Mińskiem na terenie sowieckiej Białorusi (1922 r.), za sprzeciw przeciwko nakazowi wydania wszystkich srebrnych naczyń liturgicznych, kielichów, monstrancji, relikwiarzy i cennych obrazów aresztowany 2 maja 1922 roku, został skazany na karę śmierci. Przyjął to spokojnie. Na skutek protestów nie tylko katolików, ale i wielu prawosławnych, sowieci zamienili wyrok śmierci na długoletnie ciężkie więzienia w Mińsku, Moskwie, Jarosławiu. Na drodze wymiany za sowieckich szpiegów uwięzionych w Polsce, ks. Adam Lisowski mógł wrócić do Polski w 1924 roku... Ks. Adam Lisowski, Wikariusz Generalny Diecezji Mińskiej. Kanonik Honorowy Kapituły Mińskiej i Kanonik Gremialny Kapituły Pińskiej... Ks. Adam Lisowski studiował na wydziale nauk społecznych Uniwersytetu w Innsbrucku i kontynuował studia na Uniwersytecie w Monachium...**”. Пра працу на беларускай ніве вышкаўскі партал не згадвае.

Падаўся я ў Кляшчэлі з надзеяй знайсці магілу ксяндза Адама Лісоўскага. Кляшчэлеўскія некраполі распаложаны на сонечным паўднёвым схіле Бельскага ўзвышша, якое тым схілам сыходзіць у даліну ракі Нурэц, у якой і загняздзіўся горад. Могілкі для вернікаў заходняга абраду распаложаны на захад ад шашы ў Бельск, а ўсходняга абраду — на ўсход ад згаданай шашы. На першы агляд тамашніх каталіцкіх могілак здалося мне, што яны невялікія, але ўсё ж такі спадарожнічала мне сумненне, нейкае прадчуванне, што мой план можа не даць поспеху. Таму, калі я пачуў там размову дзвюх жанчын, адразу накіраваўся да іх. Адна з іх ведала, дзе магіла, у якой пахаваныя ксяндзы, хаця засцерагла, што святароў у прынцыпе хавалі побач касцёла. Адкрыла яна фортачку ў агароджы магілы, адхіліла кветкі, якія засланялі надпісы на цэментным пастаменце. Непаседлівы Час увёў ужо ў тыя надпісы свае аздабленні і складана было іх чытаць. Калі я беспасляхова прагледзеў амаль усе радочкі і пачаў ужо сур'ёзна сумнявацца, на самюсенькім нізе паказалася і прозвішча ксяндза Адама Лісоўскага...

Жанчыны пра яго нічога не ведалі, бо ж ён там не служыў. Калі я дадаў, што ён быў родам з Віленшчыны, другая з жанчын сказала, што можа пра яго нешта будзе ведаць ейная маці, якая родам таксама з Віленшчыны. Яна тут жа аператыўна пазваніла па мабільніку сваёй маме, але на жаль, і яна нічога пра ксяндза Адама Лісоўскага не ведала. А я, вось, паціхеньку спадзяваўся, што ўдасца мне там даведацца, чаму менавіта яго пахавалі ў Кляшчэлях... Даведаўся пазней, з інтэрнэту: „Пахаваны у Кляшчэлях на Беласточчыне па сваім жаданьні побач са сваім духовым апякуном кс. Адольфам Пласкавіцкім”.

Пра Адольфа Пласкавіцкага даведаўся я з некралога, памешчанага ў інфарматары „**Dwutygodnik Dyecezalny Wileński**” ў 1915 годзе. Нарадзіўся ён у 1836 годзе, Пецярбургскую духоўную акадэмію закончыў у 1859 годзе. Служыў пасля ў Навагрудку, Мінску, Рэжыцы, Давыд-Гарадку, Бабруйску, Вільні, Ракаве, Лідзе, Гальшанах; гэтыя вандроўкі не былі дыктаваны касцельнымі парадкамі, былі яны вынікам адміністрацыйных рашэнняў царскіх чыноўнікаў. З 1890-х гадоў быў ён пробашчам парафіі ў Кемелішках на Ашмяншчыне — да 1911 года, калі быў пераведзены ў Кляшчэлі. Магчыма, там, на Ашмяншчыне, і пазнаёміліся абодва ксяндзы. Аднак апрача гэтага ёсць яшчэ адна паралель, якая, магчыма, паўплывала на выбар ксяндзом Лісоўскім месца пахавання. Віленскі двухтыднёвік: „**Całe życie, tak sowicie spowite w kolce i ciernie, przeszedł, można powiedzieć, bez skargi i utyskiwania; zawsze poważny, szczery, otwarty, pobożny i pracowity. Zmarł 10 stycznia 1915 r. w Kleszczelach. Obyż praca jego i cierpienia, modły i łzy jego owieczek nad grobem wzniesione, otwarły mu podwoje do niebios, a on zaznawszy doli tułaczej na ziemi, znalazł odpoczynek wieczny u Tronu...**”. І ксёндз Лісоўскі таксама „**całe życie, tak sowicie spowite w kolce i ciernie, przeszedł, można powiedzieć, bez skargi i utyskiwania; zawsze poważny, szczery, otwarty, pobożny i pracowity...**”.

Даступныя зараз даведнікі неадназначна інфармуюць пра пераклады Біблії на сучасную беларускую мову. Для прыкладу: айцец Сяргей Сурыновіч падае наступнае: „На пачатку XX стагоддзя перакладам біблійных кніг Новага Запавету заняўся каталіцкі святар Адам Лісоўскі. Паводле сведчанняў біскупа Чэслава Сіповіча і Янкі Садоўскага, ксяндзом Лісоўскім (прыблізна 1907-1922 гг.) былі перакладзеныя: Апокаліпсіс, Апостальскія Дзеі, Лісты сьв. Паўла да Рымлян, Галатаў, Карынтаў. Язэп Германовіч выказаў меркаванне, што гэтыя тэксты былі выкарыстаныя Ільдэфонсам Бобічам і Адамам Станкевічам. Гэтыя тэксты пакуль не знойдзены. Першым выданнем 1922 года, якое ўключала біблійныя ўрыўкі, стала „**Niadzielašnija Ewanhielii i nawuki**” у трох тамах ксяндза Ільдэфонса Бобіча. Цэнзар кс. прафесар А. Крайяліс даў сваю згоду на друкаванне кнігі, але сакратар біскупскай курыі кс. І. Халецкі, перш чым даць цэнзарскі дазвол да подпісу біскупа, даслаў ліст у Варшаву езуіту Шчапанскаму, у якога пытаўся, — ці можна выдаваць гэтую кнігу. Адказ быў адмоўны, але кс. Крайяліс напісаў біскупу Матулевічу пра беспадстаўнасць забароны, і кс. Бобіч атрымаў дазвол на выданне сваёй працы. Займаўся перакладамі ў гэты час таксама Вацлаў Ластоўскі, але пераклад усіх кніг Новага Запавету і адной са Старога Запавету (Псалмоў) пабачыў свет у 1931 годзе. Пераклад здзейсніл Лукаш Дзекуць-Малей і Антон Луцкевіч”.

А вось энцыклапедычны даведнік „Рэлігія і царква на Беларусі” з 2001 года ў артыкуле пра біблейскія пераклады зусім не згадвае ні пра Адама Лісоўскага, ні пра Вацлава Ластоўскага, ні пра Ільдэфонса Бобіча: „Заклікі да выдання Святога пісання па-беларуску з'яўляліся ў бел. друку ў 1906-17. Каталіцкая газета „**Biełarus**” („Беларус”) знаёміла чытачоў з паасобнымі сюжэтамі і вобразамі Біблії. Першыя практычныя крокі да перакладу Новага запавету на сучасную бел. мову былі зроблены ў Зах. Беларусі і Польшчы. Баптысцкі прапаведнік Л. Дзекуць-Малей у пачатку 1920-х гадоў пераклаў Евангеллі, якія ў 1926-1930 выдзілі асобнымі брашурамі ў баптысцкім выдавецтве „Компас” (Лодзь). А. Луцкевіч адрэдагаваў пераклады Дзекуць-Малея, а паасобныя кнігі Новага запавету пераклаў сам. Вынікам гэтай працы стала выданне па-беларуску „Новага запавету і Псалмаў” (Гельсінгфорс, 1931; Лондан, 1948; Таронта, 1985)...”. Ёсць там і асобны артыкул пра ксяндза Бобіча, а ў ім сказ: „Аўтар працы на бел. мове „Нядзелішнія эвангэліі і навукі” (т. 1-3, 1921-22), артыкулаў па рэліг. і культурных пытаннях, вершаў...”.

Варта звярнуць увагу на гэтую выдавецкую тапанімію — беларускамоўныя пераклады Біблії — каталіцкія і пратэстанцкія — выдаваліся па-за межамі тытульнай Беларусі. Таксама першы праваслаўны пераклад Святога пісання на беларускую мову пабачыў свет у Таронта ў 1988 годзе. Сяргей Сурыновіч: „Біблейская Камісія пры Беларускім Экзархаце Маскоўскага Патрыярхата распачала сваю перакладніцкую дзейнасць у 1991 годзе, дзякуючы чаму свет пабачылі паасобныя пераклады Евангелляў, Дзеяў Апосталаў, Саборныя Пасланні Святых Апосталаў, Пасланне да Рымлян Апостала Паўла, 1-е Пасланне да Карынфян Апостала Паўла”.

Уздым нацыянальнай свядомасці беларускіх ксяндзоў быў жорстка задушаны сталінскімі і гітлераўскімі палачамі. Янка Трацяк: „Вечнае праследаванне за беларускасць зрабілі сваю справу: у пасляваенныя гады ў БССР не было ніводнага святара, які карыстаўся б беларускай мовай. І толькі ў 1960-х гадах у Вішневе (Валожынскі раён) Уладзіслаў Чарняўскі паступова пачаў адраджаць беларускую справу ў касцёле”.

І хто ведае, ці ксёндз Адам Лісоўскі, балюча спазнаўшы новы парадак і загадзя прадбачыўшы лёс запачаткаванай сабой справы, не выбраў на месца свайго фінальнага спачыну таго кусочка роднай зямелькі, што найбольш аддалены ад Масквы і Яраслаўля. А ягоны след астаўся не толькі на намагільніку ў Кляшчэлях — астаўся ён таксама і ў беларускай духоўнасці.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Успаміны Дзмітры Шатыловіча

Упершыню з арыгінальнымі ўспамінамі беларускага паэта і публіцыста Дзмітры Шатыловіча я пазнаёміўся, чытаючы беластоцкі „Czasopis". З нумара ў нумар на працягу пяці гадоў яны там друкаваліся, дзе аўтар занатаваў сваё жыццё і падзеі ў Польшчы, былым СССР і, наогул, у свеце, пачынаючы з 1955 года. Гэтыя ўспаміны працягваюць друкавацца і цяпер. А ранейшыя жыццёвыя згадкі 1955-1988 гадоў Дзмітры Шатыловіча выйшлі асобнай кнігай у Беластоку. Яна так і называецца „Успаміны 1955-1988" (Беласток 2013).

На 326 старонках старэйшы беларускі літаратар з Варшавы, якому, дарэчы, 8 лістапада споўнілася 88 гадоў, дасканала распавёў пра падзеі другой паловы XX стагоддзя. Дарэчы, успаміны ранейшых гадоў Дзмітры Шатыловіча друкаваліся ў тыднёвіку „Ніва", у альманахах „Беларус" (Нью-Ёрк 2012, 2013) і ў кнігах „У новай айчыне" (Беласток 2001, с. 265-282), „Пакаленне вайны" (Беласток 2003, с. 220-255), „Час трывогі і надзеі" (Беласток 2007, с. 225-289). У „Новай айчыне" Дзмітры Шатыловіч прыгадаў родную вёску Чаромху на Бельшчыне ў міжваенны перыяд, дзе ён нарадзіўся. У „Пакаленні вайны" распавёў пра свае юнацкія гады і вайну. У кнізе „Час трывогі і надзеі" літаратар успамінае пасляваенны час. Магчыма ўсе гэтыя ўспаміны некалі з'явяцца ў адным томе. І гэта будзе вельмі важны, цікавы і сур'ёзны аўтабіяграфічны жыццёвы дакумент беларуса з Беласточчыны. Але цяпер у адной кнізе Дзмітры Шатыловіч вынес на суд чытачоў успаміны пасляваеннага пэўнага жыццёвага перыяду. Аўтара гэтых успамінаў Юры Хмялеўскі ў прадмове да кнігі назваў летапісцам, які з Падляшша родам.

Сапраўды, Дзмітры Шатыловіч — летапісец. Прытым, вельмі змястоўны, дасканалы, шырокі ў геаграфічных развагах і гістарычных фактах.

На вокладку кнігі ўспамінаў аўтар вынес здымак Палаца культуры і навукі, на які заўсёды звяртаюць увагу турысты ці проста людзі, якія бываюць у Варшаве. „Гэта Сталін падараваў будынак Варшаве", — кажуць заўсёды паляки. Дзмітры Шатыловіч распавядае, што гмах савецкія працаўнікі здалі 28 кастрычніка 1955 года. У ім адкрыліся новыя кінатэатры, тэатры, рэстараны і залы, людзі сталі катацца на хуткім ліфце наверх, каб зверху аглядаць Варшаву. Палац гэты будавалі з 1952 года. Далей літаратар апісвае, што на праваслаўных могілках на Волі знаходзяцца магілы савецкіх працаўнікоў, якія загінулі ці памерлі ў час пабудовы палаца. Загінулі, як сцвярджае аўтар успамінаў, 14 працаўнікоў і двое дзяцей. „Я сам калісьці здалёк бачыў, як адзін рабочы адарваўся і ляцеў уніз з высокага паверха. Тады я не чуў, каб нехта сказаў, што палац трэба разбураць, хаця і не ўсім ён падабаўся", — піша спадар Шатыловіч.

Успаміны варшаўскага беларуса можна падзяліць на ўмоўныя раздзелы: сямейнае жыццё, літаратурная справа, БГКТ, палітыка, СССР, Польшча і іншыя краіны свету, здарэнні і падзеі. Каго што цікавіць — той і зможа знайсці для сябе розныя факты, якія іх цікавяць. Але дзеля гэтага неабходна прачытаць усю кнігу. Мяне вось зацікавіў такі факт, што ў 1955 годзе ў Польшчы нарадзілася 793,8 тысячы дзяцей. „Гэта быў год самага высокага прыросту насельніцтва ва ўсёй гісторыі краіны", — піша Дзмітры Шатыловіч.

Дзмітры Шатыловіч — ветэран беларускага руху ў Польшчы. Вельмі добра, што ў сваіх успамінах ён занатаваў і беларускія справы. Вось аўтар паведамляе, што 30 сакавіка 1958 года ў Беластоку адбыўся другі з'езд БГКТ, на якім заклікалі, каб у кожнай вёсцы на Беласточчыне быў гурток БГКТ, каб БГКТ усю сваю дзейнасць скіравала для ўмацавання народна-дэмакратычнай улады ў Польшчы і каб у кожнай беларускай вёсцы была беларуская школа. А тады было ўжо 57 школ з беларускай мовай навучання і 116 школ, дзе беларуская мова навучалася як прадмет. У пачатковых школах 8861 дзіця вучылася па-беларуску і былі два беларускія ліцэі. Старшынёй БГКТ у той час быў абраны Уладзімір Станкевіч, былы дзеяч КПЗБ. А яго намеснікамі выбралі Аляксандра Давідзюка і Піліпа Кізевіча, сакратаром — Віктара Шведа. Хацелася б, каб аўтар успамінаў трохі пра Станкевіча, Давідзюка і Кізевіча прыгадаў. А калі такіх згадак няма, я пару слоў скажу пра Піліпа Кізевіча. Таго самага Піліпа Кізевіча, які ў 1930-х гадах быў сябрам Галоўнай управы ТБШ, дзе ён арганізаваў і кіраваў курсамі для дарослых на Беласточчыне. Пра сваю прапанову і пра курсы ён напісаў нават артыкул і апублікаваў у 1933 годзе ў часопісе „Летапіс ТБШ". Дзякуючы Піліпу Кізевічу, Беластоцкай акруговай управаю ТБШ быў наладжаны ў 1930-х гадах цыкл лекцый па ўсёй акрузе, кожны гурток ТБШ ставіў спектаклі ў сваёй і суседняй вёсках, праводзіўся заняткі з няграматнымі і малаграматнымі сялянамі. Напрыклад, у Пяшчаніцкім гуртку ТБШ былі арганізаваны курсы для дарослых, якія складаліся з дзвюх груп: няпісьменнай і малапісьменнай. У першай групе выкладалася беларуская мова, вучыліся чытаць і пісаць, а таксама складаць і рашаць. Вывучалася і геаграфія Беларусі.

Але зноў вернемся да ўспамінаў Дзмітры Шатыловіча. Добра, што ў іх аўтар вельмі шмат месца адвёў БГКТ, літаратурнаму аб'яднанню „Белавежа", „Ніве". Хораша ён згадвае прамысловае прадпрыемства „Бэтэска", якое фінансавала БГКТ і дырэктарам якога быў Пятро Ластаўка.

Мне спадабаўся момант ва ўспамінах, калі Шатыловічы ў Рабцы на адпачынку сустрэлі бацьку, маці і цётку архітэктара і прафесара Аляксандра Грыгаровіча, які праектаваў царкву ў Ялоўцы, сабор св. Тройцы ў Гайнаўцы і разбудову царквы св. Міхаіла ў Бельску-Падляшскім. Жонка Ніна Дзмітры Шатыловіча Грыгаровічаў ведала яшчэ да вайны.

У сваіх успамінах аўтар на працягу 33 гадоў зафіксаваў розныя зямныя катаклізмы, здарэнні, катастрофы: калі і дзе яны адбыліся, з чым гэта было звязана, якія людскія ахвяры яны прынеслі. Сам Дзмітры Шатыловіч аб'ездзіў шмат краін свету, бо ў вольны час працаваў гідам замежных экскурсій у польскім турыстычным бюро „Орбіс". Пра розныя вандроўкі па свеце ён таксама з захапленнем распавядае ў сваёй кнізе.

**Сяргей ЧЫГРЫН**




# www.belarusam.by

У Беларусі знайсці ў крамах канцылярскія тавары, якія пазначаны па-беларуску, справа амаль немагчымая. З пункту гледжання жыццёвага рацыяналізму такія тавары асабліва і не патрэбныя. Навошта, калі ўсё выкладанне амаль ва ўсіх школах Беларусі вядзецца па-руску? Значыць, і розныя сшыткі, алоўкі, акварэльныя фарбы таксама пазначаюцца па-руску, гэта ж натуральна. Ну калі нават нехта і навучаецца ў тых нешматлікіх беларускамоўных школах, то на іх, на думку лукашэнкаўскіх чыноўнікаў, зважаць не варта, маўляў, купяць сабе сшыткі і альбомы з надпісамі па-руску, не памруць.

І сапраўды, ніхто ў Беларусі і за яе межамі не памёр ад адсутнасці канцылярскіх тавараў з надпісамі па-беларуску. Але трэба ж такому здарыцца, што нават пры напляваельскім стаўленні лукашэнкаўскай улады да беларускай мовы і беларускіх нацыянальных сімвалаў, знаходзяцца людзі, якім хочацца, каб беларускія навучэнцы мелі магчымасць набыць сшыткі, альбомы для малявання і іншую канцыляршчыну з беларускімі пазначэннямі. А попыт і прапанова, як правіла, нараджаюць адно аднаго.

І вось сёлета ў беларускім сэгменце інтэрнэту з'явіўся сайт інтэрнэт-крамы беларускіх тавараў. Месціцца ён па адрасе **www.belarusam.by** і мае даволі просценькі інтэрфэйс.

„www.Belarusam.by — тавары на беларускай мове. Інтэрнэт-крама тавараў на беларускай мове. Сшыткі і альбомы для малявання, магніты на лядоўню", — распавядаецца на галоўнай старонцы. Там таксама размешчаны ўзоры некалькіх сшыткаў. Сярод іх вопратак — малюнкі, прысвечаныя Аршанскай бітве, каханню,беларускаму арнаменту і, канешне, гербу „Пагоня".

Паводле віцебскага прадпрымальніка Уладзіміра Рамановіча, уладальніка данага сайта, у Беларусі 80% сшыткаў робяць небеларускія кампаніі, і гэтая прадукцыя, як звычайна, не мае ні беларускай мовы, ні якога-небудзь арнаменту. „Беларускія кампаніі таксама выпускаюць гэтую прадукцыю на рускай мове. Таму мы зрабілі беларускамоўныя сшыткі", — распавёў ён Радыё Свабода.

Ягоны сайт мае няшмат старонак, таму знайсці патрэбны тавар вельмі лёгка. Сшыткі, альбомы для малявання, магніты на лядоўню — у кожнага асобная старонка. Асобную старонку мае і расповед як апладціць і атрымаць тавары, якія аказаліся даспадобы. Пра гэта ходзіць на старонцы „Як атрымаць?". Праўда, у нейкі дзіўны спосаб падаюцца на сайце кошты тавараў і кошты дастаўкі — яны пазначаюцца толькі лічбамі без удакладнення валюты, хоць зразумела, што ходзіць пра беларускія рублі.

Пакуль у інтэрнэце не так многа крамаў, якія спецыялізуюцца ў продажы менавіта тавараў у беларускамоўным аздабленні. Таму, магчыма, такая бясплатная для іх рэклама зробіць агульны ўнёсак на карысць беларушчыны. Асабліва зважаючы на тое, што нават з'яўленне такіх інтэрнэт-крамаў не застаецца без увагі медыяў. І вось ужо Радыё Свабода распавядае пра творча-бізнесовыя планы ўладальніка **Belarusam.by**.

„Прадпрымальнік зь Віцебску Уладзімер Рамановіч да зімы зьбіраецца выпусьціць швэдры зь беларускай сымболікай і арнамэнтам. Пробныя экзэмпляры павінны зьявіцца ўжо на гэтым тыдні", — распавяло радыё 13 кастрычніка.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

Працавала для Беларусі

## 95 гадоў з дня нараджэння

# Раісы Жук Грышкевіч



Актыўная і дзейсная дзяячка беларускай эміграцыі Раіса Жук-Грышкевіч (у дзявоцтве Жукоўская) нарадзілася ў Пружанах 22 кастрычніка 1919 г. у сям'і Міколы Жукоўскага і Надзеі Меярэвіч. Дагэтуль захавалася хата па вул. Горка, у якой яна нарадзілася. Раіса скончыла ў Пружанах польскую пачатковую школу і гімназію імя Адама Міцкевіча. У 1938 г. паступіла ў Беларускую гімназію ў Вільні. Пасля прыходу ў Заходнюю Беларусь бальшавікоў працавала настаўніцай беларускай мовы ў Пружанах, потым была накіравана ў Смалявічы.

У 1942 г. прымусова была вывезена на працу ў Нямеччыну. Пасля скančэння вайны трапіла ў лагер для перамешчаных асоб у Ватэнштэце ў брытанскай акупацыйнай зоне. Там Раіса стала сцяжной жаночага скаўтынгу і пэўны час працавала ў лякарні. Потым выехала ў Марбург вучыцца на дантыстку. У 1949 г. з'ехала ў Канаду. Паколькі еўрапейскія дыпломы ў галіне медыцыны там не прызнаваліся, змушаная была вучыцца зноў. У 1954 г. скончыла ўніверсітэт у Таронта і атрымала дыплом доктара стаматалагічнай хірургіі. Адначасна з вучобай на дантыстку наведвала курсы беларусазнаўства, адкрытыя пры ўніверсітэце Вінцэнтам Жук-Грышкевічам. Паводле прафесіі працавала стаматолагам ажно да 1990 г.

4 верасня 1953 г. выйшла замуж за доктара Таронцкага ўніверсітэта Вінцэнта Жук-Грышкевіча, які быў тады намеснікам старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Міколы Абрамчыка.

З першых дзён жыцця ў Канадзе стала сябрам Згуртавання беларусаў Канады, была сярод ягоных фундатараў. Шмат гадоў узначальвала Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады, выдавала ягоны друкаваны орган „Камунікаты". У 1965-1975 гг. узначальвала Задзіночанне беларускіх жанчын Канады, была сакратаром-скарбнікам Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе, сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Ад 1978 г. сябра Рады БНР. З 1997 г. — сябра Прэзідыума Рады БНР.

Выдала вялікую кнігу „Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча" (Таронта 1993), а таксама біяграфічную „Род Жукоўскіх-Меярэвічаў". У рамках Выдавецкага камітэта Згуртавання беларусаў Канады спрычынілася да выдання двух падручнікаў па беларускай мове аўтарства сястры, Валянціны Пашкевіч. Вельмі любіла мастацтва і чытаць.

У ліпені 1993 г. была ўдзельніцай І З'езду беларусаў свету ў Менску. Тады наведала і родныя Пружаны. У 1995 г. брала ўдзел у ІІ Міжнародным кангрэсе беларусістаў у Менску.

Адным з вялікіх здабыткаў Раісы і Вінцука Жук-Грышкевічаў было ўсталяванне ў 1988 г. Беларускага крыжа ў Прошчы Мучанікаў у горадзе Мідланд. Да Крыжа пазней дадаўся Помнік ахвярам камунізму ў Беларусі. Нашы эмігранты штогод бяруць удзел у паломніцтве да Беларускага крыжа ў Мідландзе.

Раіса Жук-Грышкевіч жыла ў мясцовасці Бэры, дзе памерла пяць гадоў таму — 2 красавіка 2009 г. Яе пахавалі каля мужа на беларускіх могілках у Нью-Брансвік у штаце Нью-Джэрзі ў ЗША.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Рассляваныя святліцы

Пад такім загалоўкам 12 кастрычніка адбыўся народны фэст у Палічнай. Арганізатарам мерапрыемства быў Гарадскі асяродак культуры, спорту і адпачынку (ГАКСіА) у Кляшчэлях. Імпрэза пачалася ў 15 гадзін. Паколькі рэкламныя абвесткі былі заўчасна распаўсюджаны па наваколлі, таксама і на сайце, публіка не падвяла. Усе сядзячыя месцы ў святліцы былі заняты. Многія гледачы стаялі нават у калідоры. А рэпертуар мастацкай часткі быў даволі багаты і разнародны, ад беларускай і польскай песні, па гумарыстычны вясковы фальклор з „жыцця ўзяты". Першым на сцэне выступіў дзіцячы гурт „Міксуркі" пад кіраўніцтвам Ігара Фіты.

Затым прэзентавалася „Вішанька-чарэшанька" з Сухавольцаў. Нядаўна калектыў адзначыў 15-гадовы юбілей. Сухавольскія пявунні харошымі песнямі пакарылі публіку. Пасля кожнага нумара гучалі бурныя апладысменты. Варта адзначыць, што канцэрт, як прафесіянальны канферансье, вёў Марк Скамароўскі, член „Народнай капэлы" з Сямятыч і заадно працаўнік ГАКСіА. У час перапынкаў паміж выступамі артыстаў у дуэце з Зянонам Селеваноўскім, натабена дырэктарам ГАКСіА, выканалі некалькі песень, у тым ліку добравядомыя „Жураўлі", прысвечаныя цудоўнай палічанскай публіцы. А калектыў „Каліна" з Дашоў развесяліў шматлюдную аўдыторыю гумарыстычнымі сцэнкамі „Бацькоўскае блаславенне" і „Суседкі". Выступ дашоўскіх самадзейнікаў вельмі спадабаўся прысутным, аб чым сведчылі авацыйныя воплескі пасля кожнай сцэнкі. А завяршаў канцэрт выступ эстраднага гурту пажарнікаў „Жар" з Сарнакаў. Выступ аказаўся непаўторнай падзеяй. Звонкія галасы сарнацкіх прыгажунь, бадзёрая народная музыка добравядомых польскіх і беларускіх гітоў („Цячэ вада ў ярок", „Z tamtej strony jeziora", „Płynął strumyk", „Jadą goście, jadą", „Bo do tanga trzeba dwojga" або цыганская „Оле, оле...") так заваражылі публіку, што зала проста спявала з артыстамі. А калі вядучы абвясціў канец выступу, з залы пачулася громкае „біс". Публіка не адпускала выканаўцаў са сцэны. На развітанне калектыў выканаў (па дамове з гледачамі) „Hej, sokoły".

Так закончыўся народны фэстын „Рассляваныя святліцы" ў Палічнай. Але гэта не канец палічанскім мерапрыемствам. Марк Скамароўскі і дырэктар Селеваноўскі абяцалі, што будуць арганізаваны тут чарговыя імпрэзы тыпу лістападаўскія „Анджэйкі" ці студзеньскі „Вечар калядак". Прапановы кіраўніцтва ГАКСіА жыхары вёскі адобрылі. Жадаем затым поспехаў на культурнай ніве. Так трымаць!..

„Вішанька-чарэшанька" з Сухавольцаў

„Жар" з Сарнакаў

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## Выбарчая гонка — Гарадок 2014

Цяжкая ўсім дарога на „шчыт" улады

## Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. сігнальны паплавок на вадаёме для абазначэння, напрыклад, мелі = 8 _ 19 _ 7 _;
2. стадола = 16 _ 21 _ 13 _ 14 _ 15 _;
3. самая халодная пара года = 1 _ 12 _ 20 _ 17 _;
4. звязка, ахапак, напрыклад, саломы = 2 _ 3 _ 10 _ 9 _ 11 _;
5. доўгая жэрдка, напрыклад, для высокіх лёгкаатлетычных скачкоў = 18 _ 6 _ 4 _ 5 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | |
| | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| (ш) | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | 18 | 19 | 20 | 21 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 40 нумара**

Буг, Нарач, абрыў, ода, шыя, цьма, пярына, грыб, Свіслач.

Рашэнне: **Грошы ўбачыць і сляпы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** ў Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# 26.10 — 01.11

**(22.03. — 20.04.)** Больш энергіі ўкладзеш у дбайнасць аб сваю кар'еру, чым у беганне па крамах. Падмацуецца твая амбіцыя. Слушна падумаеш аб ашчаднасці, бо можа трэба будзе парабіць аплаты, аддаць доўг... Не адкладвай гэтага на пазней, бо пашкадуеш! Бараны з 1-6.04. могуць здзейсніць жыццёвы пераварот, палячы прытым за сабою масты.

**(21.04. — 21.05.)** Час спакою і суцішэння. Будзеш у выдатным настроі, а прафесійныя справы складуцца пасляхова. Старайся не есці салодкага, бо цукар будзе пустошыць твой арганізм, рэгулярна шпацыруй. Не пазычай, не падпісвай важных папер.

**(22.05. — 22.06.)** Будзе вялікая перамена. Выпрастаюцца справы, якія дасюль не ішлі па тваёй думцы. Пазнаёмішся з цікавымі людзьмі, можаш нават закахацца. Варта прысвяціць больш часу камусьці асабліваму. Вельмі пільнуйся пры падпісванні дамоў — усё дакладна чытай. Нейкі круцель схоча цябе ўблытаць у штосьці, з чаго будзеш выграбацца доўгія месяцы.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш схільны да скандалаў і спрэчак. Перш за ўсё ў пары можа быць вялікі скандал, на шчасце дасягняце кампраміс. Можаш хутка прастудзіцца або ад кагосьці заразіцца. Адразу, калі адчуеш сябе горш, прымяні праверaныя спосабы лячэння. На працы будзеш заўзяты і працавіты, што будзе адпаведна ацэнена.

**(24.07. — 23.08.)** Адчуеш прыліў жыццёвых і рухаючых сіл. Пераканаешся, што для цябе няма немагчымага. А твая інтуіцыя ўсцеражэ цябе перад сур'ёзнай памылкай. Прачнуцца ў табе таксама дыпламатычныя здольнасці, пакірусш усім так, што і воўк будзе сыты, і авечка цэлая.

**(24.08. — 23.09.)** Афармляй справы ва ўстановах, судах, у натарыусаў, а не сустрэне цябе сумятня. Спрыяе табе шмат зычлівых людзей. Усе праблемы старайся палагодзіць адразу. Пільнуй свае суставы і кровазварот. Калі пагоршыцца са здароўем, лягай адпачываць, не шкадуючы на гэта часу.

**(24.09. — 23.10.)** 25-29.10. спрыяюць табе шчасце і фантастычныя людзі. Трапяцца цікавыя нагоды, удала і ў фінансах. Удалыя супольныя прыемнасці. Але май час на дапамогу сваякам. Пільнуй здаровай кухні — адпаведная дыета не толькі падмацуе цябе, але і карысна зменіць хімію мозгу. Але ў апошнія дні кастрычніка магчымыя праблемы на працы.

**(24.10. — 22.11.)** Калі ты адзінокі Скарпіён, азірніся — можаш сустрэць каханне! Прыемныя рандэву і эмацыйныя захапленні (найфайней у Скарпіёнаў народжаных у кастрычніку). Рэабілітацыя прынясе фантастычныя вынікі. Калі змагаешся з працяглай хваробай, выпрабуй натуральныя тэрапіі. Плануй інвестыцыі. Вельмі пільнуй свайго кашалька, не насі з сабою многа грошай, не паддайся намовам абманшчыкаў.

**(23.11. — 22.12.)** Ідэальны момант прыхарошыць сваё жытло. Можаш пачаць цяпер рамонт, усё хораша, спраўна ўдасца. У пачуццях нудна не будзе. Гарачы раман — калі ласка, але не шлюб! Стральцы з 25-30.11. могуць хвілінку падумаць, што сустрэлі каханне жыцця, але час (балюча!) вылечыць іх з гэтай ілюзіі. 28-29.10. пазбягай хірургічных і стаматалагічных аперацый.

**(23.12. — 20.01.)** Прафесійныя поспехі, пачуццё сваёй вартасці і здзяйснення. Дбай аб свае ныркі, сэрца і горла: могуць вярнуцца недалечаныя нямогласці. Не заінвестуй у штосьці, што прынясе страты. Рызыка апалаціцца, калі ў пору адмовішся.

**(21.01. — 19.02.)** Зацікавіцца табою хтосьці значна маладзейшы. Не спадзявайся, аднак, цудаў і феерверкаў, хаця будзе многа дэкларацый і слоў пра каханне. Расправішся са злым лёсам! Магчымы сямейны кругаварот падзей у Вадалеяў з 8-13.02., але дасце сабе рады. Горш са здароўем — магчымыя кантузіі ног, асабліва ступакоў і лытак. Затое накапае табе ў кашалёк — можаш разлічваць на ўрэгуляванне спадчынных спраў або прыток грошай з нейкіх фондаў. Прыхавай трохі грошай, спатрэбіцца ў найбольш нечаканы момант.

**(20.02. — 21.03.)** 25-29.10. — час спрыяе любові і сяброўству. Не раздумвай, да чаго маеш талент, рабі тое, што падказвае табе сэрца. Закаханыя Рыбы 25-29.10. пераканаюцца, што зрабілі выбар найлепшы з магчымых. Больш свабоды ў сямейных і сяброўскіх адносінах, добры час на супольныя падарожжы. Адпачывай, танцуючы!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Украіна ў цяні вайны (6)

Украінская Карпатыя, на першы погляд, выглядала як замежная краіна. Уражанне мацавала рэзкая перамена нацыянальнай сімволікі. Паколькі паўночна-заходняя Украіна была ўпрыгожаная афіцыйнымі сіне-жоўтымі сцягамі, тут перавагу ўзяла сімволіка нацыянал-радыкалаў — іх чырвона-чорныя сцягі луналі на дзяржаўных і прыватных будынках, ля прыдарожных крыжоў і бараў, на аўтобусах, прыватных аўтамабілях, таксі. Пад чырвона-чорнымі сцяжкамі ехалі ў царкву вянчацца маладажоны ў вышыванках. Часта, разам з чырвона-чорнымі, луналі сінія сцягі Еўрасаюза і дзяржаўныя сіне-жоўтыя.

Іншая новая прыкмета: у публічнай прасторы зусім знікла руская мова. Рэкламы, назвы прадуктаў ды нават меню ў рэстаранах напісаны выключна на украінскай мове, у апошнім выпадку дапамагала яшчэ англійская. Руская мова гучала ў прыватных размовах, на вакзалах і на ёй гаварылі без страху. Усе адміністраторкі гасцініц і гостэляў, як зачараваныя, глядзелі рускамоўныя тэлесерыялы...

* * *

У Каламыю трапілі мы вечарам, без ранейшых планаў і вялікіх спадзяванняў.

Па дарозе быў яшчэ Чорткаў, аднак пасля Пачаеўскай Лаўры начаваць у горадзе з такой грэшнай назвай — як назойліва спакушаць лёс. Досвед падказваў, каб кіравацца ў мясціны з прыгожымі імёнамі, там заўсёды шанцавала з начлегам, а часам з вячэрай. Магчыма, пра выбар вырашыла паломніца Марыя, якая ў маршрутцы спажывала вараныя яйкі. Абраны намі горад таксама асацыяваўся з яйкам-пісанкай, такі менавіта брэнд некалькі гадоў таму прыдбала сабе Каламыя. У цэнтры паставілі помнік агромністаму яйку, якое запрашае ў музей пісанкі і карпацкай велікоднай традыцыі аздаблення яек. У шырокім свеце Каламыю бачаць яшчэ як месца праслаўленае цадыкамі-цудатворцамі...

Нам паспрыялі ўсе брэнды і традыцыі. Адразу, калі мы выйшлі з аўтобуса, ветлівая маладзіца, якая выглядала кагосьці на прыпынку, параіла:

— Вам трэба ў „Магнолію”!

Хоць сам маршрут здаваўся пакручастым, мы адразу трапілі на вуліцу Тэатральную, быццам хто за руку завёў. Гостэль „Магнолія” ў начным святле здаўся знаёмым. Месца нагадвала вуліцу Сенатарскую ў Варшаве, дзе калісь працаваў культавы беларускі клуб.

Ад парога нас сустрэла добрая навіна. Нам прапанавалі апартамент за адзіныя сто грыўнь (восем долараў). Калі мы гутарылі з адміністратаркай гостэля, я зноў перажыла нешта як дэжавю. Здавалася, у глыбокіх вачах жанчыны на міг ажыў яўрэйскі свет цадыкаў-цудатвоцаў. Апошнюю фразу я таксама машынальна за некім паўтарыла...

Пасля, калі мы падымаліся на паверх, у прыгожы апартамент, блiснула ў мазгах. Так, пра каламыйскую „Магнолію” пісаў ужо Земавіт Шчэрэк у сваім прарочым аповедзе-рэпартажы „Прыйдзе Мордар і нас з'есць”.

* * *

Некалькі крокаў ад „Магноліі” мы прыкмецілі бар з аранжавымі сходамі, якія апускаліся ўніз. Мы апусціліся ў прасторны падвал, хлопнулі каўбойскімі варотамі і апынуліся ля прылаўка, дзе налівaў піва сам шэф. Ён прыгожа нам пакланіўся і прапанаваў утульны столік у асобнай зале. Але ж хацелася патусавацца з народам, сагрэцца яго весялосцю. Мы занялі стол непадалёк мужчынскай кампаніі, заказалі вэнджаныя свіныя вушы і львоўскае піва... Абіраючы месца, мы яшчэ спадзяваліся, што пачуем нейкія гутаркі пра зону НАТО, пра мабілізацыю, пра сяброў, якія пайшлі ў армію. Нашы суседзі, хлопцы, якім па дваццаць-трыццаць гадоў, вялі дзелавую гутарку пра будаўніцтва, а пасля, калі ўсё ўжо аформілі і выпілі, заспявалі рамантычную песеньку *Чом ты не прышов, як місяць зышов...*

Пасля сустрэлі іх яшчэ на вуліцы, калі пакідалі паб. Маладзёны, проста з ходу, запрасілі нас да супольнай бяседы.

— А вы на вайну не збіраецеся? — пацікавіліся мы.

— Гэтая вайна далёка і нам непатрэбная, — пачулі мы ў адказ.

У кампаніі згодна заявілі, што ім нястрашныя падзеі на ўсходзе краіны. А што там б'юцца — іх справа. Там адны саўкі, іншы народ, чужое племя.

— Маскаль ніколі да нас не дойдзе, — паўтаралі па чарзе, быццам суцяшэнне, — а калі што, то яго тут правучым...

— А я і так не магу ваяваць, я хворы, — патлумачыў таўставаты бландзін, які безупынна курыў цыгарэты. Размова моцна ўсхвалявала хлопца. Аж затросся ад таго ўсяго жаху.

Каб вярнуць бестурботны настрой бяседы, нехта з кампаніі павярнуў гутарку ў бок рэляксу і забавы:

— Лепш пайшлі ў баню...

У апошняй прапанове мы адчулі адчай большы як на вайне. Хто гэта бачыў прапанаваць такія рэчы цёткам, старэйшым ад іх на дваццаць-трыццаць гадоў?

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**










ISSN 0546-1960